Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 46 (4795) 21 лістапада 2014 г.


















## Пункцірам

✔ Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі дзяржаўных узнагарод удастоены шэраг работнікаў розных сфер, у тым ліку прадстаўнікі адукацыі, культуры і мастацтва. Медалём Францыска Скарыны адзначаны артыст ансамбля народнай музыкі «Бяседа» Мікалай Алешка, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Таццяна Гаўрылава, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч, дырэктар Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў Лілія Міцура, супрацоўнікі Белдзяржфілармоніі — загадчык музычнай часткі філармоніі для дзяцей і юнацтва Уладзімір Саўчык ды мастацкі кіраўнік музычнай гасцёўні Таццяна Старчанка.

✔ Ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь» прысвоена галоўнаму рэдактару газеты «Рэспубліка» Анатолію Лемяшонку і генеральнаму дырэктару Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Віктару Старавойтаву.

✔ Прэзентацыя факсімільнага выдання «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» адбылася ў Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна. У межах прэзентацыі прайшла і ўрачыстая цырымонія перадачы шэдэўраў сусветнага значэння бібліятэкам, музеям і навуковым установам рэгіёна.

✔ У БДУ створана партрэтная галерэя дэканаў філалагічнага факультэта, прымеркаваная да 75-годдзя з дня заснавання факультэта. Экспазіцыя размешчана ў адной з цэнтральных аўдыторый, дзе штогод праходзяць пасяджэнні савета, абарона дыпломных, кандыдацкіх і доктарскіх прац.

✔ У Беларускай дзяржаўнай філармоніі ладзіўся канцэрт ансамбля «Камерныя салісты Мінска» да 300-годдзя з дня нараджэння К. В. Глюка. Творчасць аўстрыйскага кампазітара стала адной з самых важных старонак у гісторыі музыкі ў момант пераходу ад эпохі барока да «галантнага стылю» і далей да ранняга класіцызму.

✔ Свята класічнай музыкі «TyzenHouse» адбудзецца ў Гродне 27 — 29 лістапада. Міжнародны праект збярэ на сцэне абласнога драматычнага тэатра выбітных музыкантаў. Сваё майстэрства прадэманструюць і маладыя выканаўцы, якія паспелі заваяваць сімпатыі меламанаў.

✔ Заўтра ў Нацыянальным мастацкім музеі краіны, у межах выстаўкі слуцкіх паясоў з фондаў Нацыянальнага музея ў Варшаве, выступіць дуэт «Танга чэшырскага ката», вядомы публіцы па мінскім форуме вулічных тэатраў, фестывалі Grand Teatro Marionetta ў Гродне, акцыі «Ноч музеяў-2014. Лабірынты часу» ў НММ.

✔ У Цэнтры сучасных мастацтваў заўтра ладзяць Дзень інтэрактыўнага тэатра. У межах мерапрыемства выступяць тры калектывы, для якіх гледачы — не проста назіральнікі, але і непасрэдныя ўдзельнікі спектакля.

*Фота Кастуся Дробава*



*Мастак Аркадзь Шпунт у рэстаўрацыйнай майстэрні Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.*

# Святло з мінулага

**Культурная скарбніца Беларусі — Нацыянальны мастацкі музей — святкуе 75-годдзе! Сёння гэта не толькі музей-галерэя, які валодае адным з найбуйнейшых збораў ва Усходняй Еўропе, але і сучасны навукова-адукацыйны цэнтр, арт-пляцоўка для мастакоў.**

Калекцыя галоўнага музея краіны налічвае больш як 30 тысяч экспанатаў — шэдэўраў беларускага і замежнага мастацтва. У пастаяннай экспазіцыі можна ўбачыць толькі дзясятую частку з іх. Падчас Другой сусветнай вайны з Беларусі былі вывезены нацыянальныя рарытэты, прадметы старажытнага мастацтва, лёс многіх з якіх і да гэтага часу невядомы. Тым экспанатам, якія цудам ацалелі, музейныя рэстаўратары сёння дораць другое жыццё.

У аддзеле рэстаўрацыйных майстэрняў НММ, што быў заснаваны ў 1989 годзе, працуе калектыў з 19 атэставаных прафесіяналаў, якія маюць вышэйшую, першую і другую катэгорыі мастака-рэстаўратара па рэстаўрацыі станковага алейнага і тэмпернага жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, паліхромнай скульптуры, твораў з тэкстылю, фарфору, скуры, рам, твораў мастацтва графікі. Спецыялісты прайшлі стажыроўкі ў рэстаўрацыйных цэнтрах Санкт-Пецярбурга, Масквы, Польшчы.

Выстаўка «Мастацтва рэстаўрацыі. Магія майстэрства», якая адкрыецца сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, — своеасаблівая справаздача рэстаўратараў аб працы за юбілейны год. Экспазіцыйную прастору выставачнага праекта складуць 25 твораў мастацтва XVIII — XIX стагоддзяў невядомых шырокаму колу спецыялістаў і гледачоў. Сярод іх — творы алейнага жывапісу, тэмпернага іканапісу, скульптуры, фарфору, ткацтва і графікі.

Чытайце на стар. 2 ▶

# Пейзажы дзвюх Радзім

**Першыя крокі жыцця, маленства, дзяцінства Барыса Аракчэева — у Яраслаўскай вобласці Расіі. Далейшае сталенне, набыццё творчага і лёсавызначальнага вопыту — гэта ўжо Беларусь.**




*Фота Наталлі Асмола*

Але ментальнасць у многім звязана з нараджэннем, вытокамі. Таму, відаць, знакаміты беларускі мастак, у гонар якога па вуліцы Леніна, 2 у сталіцы і была адкрыта мемарыяльная дошка, здолеў умясціць у сваёй творчасці так шмат ад светапогляду сваёй роднай старонкі.

На адкрыцці ўразіла: безліч людзей прыйшло як быццам на сустрэчу з Барысам Аракчэевым. І высокія чыноўнікі, і сям'я — жонка мастака, дочкі і калегі па творчых вышуках, вучні… Вельмі багата журналістаў. Гэта і зразумела. Пра Аракчэева многа пішуць і сёння, яго спадчына часта рэпрадуцыруецца на старонках розных выданняў. Шмат дзеля гэтага робіць дачка мастака — Аксана Аракчэева, вядомы кніжны графік, жывапісец, ініцыятар многіх творчых імпрэз, выставак, чалавек актыўны і рухавы.

На ўсіх праніклівымі вачыма ўглядаўся быццам жывы, гатовы далучыцца да сябрыны Барыс Аракчэеў. Аўтар дошкі — скульптар Яўген Колчаў. Яго падыход у асэнсаванні вобраза мастака адзначалі на адкрыцці і старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, і сама Аксана Аракчэева, і іншыя выступоўцы. З кветкамі родным мастака на адкрыццё завіталі супрацоўнікі Мінскага гарвыканкама, Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь і шмат хто яшчэ…

Урачыстая дзея праходзіла ў майстэрні Аракчэевых (там, сярод карцін, працуе цяпер прадаўжальніца бацькавых традыцый — Аксана Аракчэева). Прысутныя мелі магчымасць убачыць апошнія працы жывапісца, наталіцца яго колерамі. Вось як выказалася пра падзею і творчасць мастака выдавец і дырэктар «Кніжнага салона» Ала Зміёва: «Прыцягальнасць жывапісу Барыса Аракчэева — гэта тая крынічная энергетыка, што нагадвае пра суладнасць мастацтва і рэчаіснасці. Мне падаецца, што такія творы павінны не толькі існаваць у музейнай ці галерэйнай прасторы, але яшчэ і часцей прыходзіць да нас альбомамі, паштоўкамі. Прыходзіць з разлікам на ціхі, спакойны прагляд, на тое, што выявы прыроды, пейзажы, нацюрморты дакрануцца да нашых душ усёй сваёй цеплынёй і сардэчнасцю…»

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Прынятыя ў СПБ



**Уладзімір Паўлавіч ВЯЛІЧКА**

*Секцыя публіцыстыкі*

Нарадзіўся 30 кастрычніка 1943 года ў вёсцы Масевічы Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і аспірантуру Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС (г. Масква). Кандыдат філасофскіх навук, дацэнт. Заснавальнік і першы галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка». Цяпер — в. а. галоўнага рэдактара часопіса «Белая Вежа». Аўтар шматлікіх публікацый у айчыннай перыёдыцы, стварыў больш як дзясятак манаграфій і кніг, у ліку якіх — «Беларусь маладая» (1998), «Новая Беларусь» (у суаўтарстве, 2001), двухтомнік нарысаў і эсэ «Зямля любові нашай» (2006 — 2007). Заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і літаратурнай прэміі «Залаты Купідон».



**Алена Сяргееўна МАРТЫНАВА (МАРГОТ)**

*Секцыя прыгодніцкай і дэтэктыўнай літаратуры*

Нарадзілася 21 мая 1991 года ў г. Віцебску. Скончыла гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У выдавецтве «Кнігазбор» асобнай кнігай пабачыла свет фантастычная аповесць «Вышні» (2013).



**Барыс Фёдаравіч САВІНАЎ**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзіўся 10 мая 1946 года ў г. Карабаш Чалябінскай вобласці Расіі. Скончыў Свярдлоўскі горна-металургічны тэхнікум і гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пенсіянер. Аўтар паэтычных зборнікаў «Излучение души» (2013), «Как сердцу высказать себя» (2014), кнігі вершаў і эсэ «Истоки» (2014). Суаўтар калектыўнага зборніка «Каб неба мірнае — навек!» (2014).

# Святло з мінулага

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Пра гісторыю стварэння, канцэпцыю і галоўную ідэю выстаўкі карэспандэнту «ЛіМа» распавёў загадчык Навукова-рэстаўрацыйнага аддзела, мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі Аркадзь Шпунт:

— Мэта зрабіць падобную выстаўку ўзнікла даўно. Гадоў пяць таму ўжо была спроба: прэзентаваліся аднойлены экспанаты з тлумачальнай дакументацыяй пра этапы рэстаўрацыі. На гэты раз мы з калегамі вырашылі паказаць не столькі твор, колькі сам працэс. Асаблівасць падачы матэрыялу ў тым, што прадметы пасля паказу зноў вернуцца на рабочы стол майстра. Для нас важна, каб людзі, якія прыйдуць на выстаўку, зразумелі: прадстаўленыя экспанаты да і пасля рэстаўрацыі — не адно і тое ж.

Даследаванне твораў мастацтва з фондаў музея садзейнічае знаёмству і з гісторыяй нашай краіны. Напрыклад, чатыры іконы з іканастаса царквы вёскі Хохлава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці, якія ўвайшлі ў склад экспазіцыі, на першы погляд нічога асаблівага не ўяўлялі. Аднак у працэсе апрацоўкі аказалася, што жывапіс гэты з вёскі XV стагоддзя, якую князь Аляксандр падараваў Мікалаю Радзівілу і дзе ў свой час шэсць гадоў жыў і выкладаў Сымон Будны. Відаць, іконы вясковага пісьма, але адчуваецца рука манументаліста: шырокія мазкі і невялікі набор фарбаў падкрэсліваюць адсутнасць дробязнасці.

Рэстаўрацыя — не проста вяртанне экспанату згубленага вобраза ў выніку механічных пашкоджанняў…

— Так, у маёй практыцы здарыўся цікавы выпадак, — узгадаў Аркадзь Самуілавіч. — Раней на Беларусі не было прафесійных рэстаўратараў, таму майстроў запрашалі з Расіі. Для аднаўлення партрэтаў, якія Алена Аладава адшукала ў сутарэннях Брыгіцкага манастыра горада Гродна, у НММ прыехаў легендарны Ананій Брындараў, галоўны рэстаўратар Рускага музея Санкт-Пецярбурга. Нам, маладым супрацоўнікам рэстаўрацыйнай майстэрні, якія чакалі раскрыцця пэўных сакрэтаў у працы рэстаўратара, ён параіў толькі адно: «З рэччу размаўляць трэба!»

Хацелася б, каб кожны наведвальнік выстаўкі «Мастацтва рэстаўрацыі. Магія майстэрства» прыслухаўся і на імгненне пачуў гэтую ціхую гутарку.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Праз стагоддзе

У Мінску завяршаюць працу Сёмыя міжнародныя Свята-Міхайлаўскія чытанні «Праваслаўе і сучаснасць» на тэму «Вялікая вайна 1914 — 1918 гадоў: Духоўны сэнс, вытокі і наступствы (Погляд праз стагоддзе)». У сустрэчы навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў бяруць удзел прадстаўнікі не толькі Беларусі, але і Расіі, Сербіі, Чарнагорыі, Украіны, Польшчы.

Асэнсаваннем тых далёкіх і вызначальных для Еўропы, усяго свету і Беларусі падзей падзяліліся доктар філалагічных навук Іван Чарота, прэзідэнт Бялградскага форуму за мір раўнапраўных Жывадзін Ёванавіч, аўтар кнігі «Сербія ў Вялікай вайне 1914 — 1918 гг.» , доктар гістарычных навук Міра Радоевіч, доктар філасофскіх навук Леў Крыштаповіч, мастак Барыс Цітовіч ды інш.

Узровень выкладзеных адкрыццяў уражвае і сведчыць пра тое, што Беларусь стала выдатнай пляцоўкай для сустрэч даследчыкаў Першай сусветнай вайны.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Пяром архітэктара

Юбілейны творчы вечар расійскага паэта і перакладчыка, прадстаўніка Санкт-Пецярбургскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Глеба Артханава адбыўся днямі ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.

Глеб Артханаў — творчы псеўданім Юрыя Аляксеева. Нарадзіўся пісьменнік у 1954 годзе ў г. Ніжнеудзінску Іркуцкай вобласці. Скончыў Мінскае Сувораўскае ваеннае вучылішча і факультэт архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута (цяпер БНТУ). Па адукацыі — архітэктар-рэстаўратар. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў, перакладаў з беларускай, эстонскай, в'етнамскай, англійскай, курдскай моў. Пераствbusyрыў па-руску і «Бхагавадгіту» — знакавы помнік сусветнай літаратуры, напісаны на санскрыце. Працаваў загадчыкам аддзела паэзіі часопіса «Нёман». Член рэдкалегіі часопіса «Новая Немига литературная», лаўрэат літаратурных прэмій. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу.

У перакладчыцкім арсенале Глеба Артханава — творы класікаў і сучаснікаў. Ён шмат робіць дзеля ўмацавання расійска-беларускіх літаратурных і культурных сувязей. У Мінску творца прэзентаваў свой новы зборнік паэзіі «Блакітны вершнік» («Лазоревый всадник»).

Падчас імпрэзы старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў уручыў юбіляру медаль «За вялікі ўклад у літаратуру». Павіншаваць паэта прыйшлі сябры і калегі па пяры Анатоль Аўруцін, Святлана Яўсеева, Ала Чорная, Хізры Асадулаеў, літаратурны крытык Таццяна Андрэйчанка ды іншыя.

**Яна ЯВІЧ**

# Таленты Літвы

Творчая вечарына «Наша Літва», арганізаваная літоўскай дыяспарай, прайшла ў Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур.

Ужо не першы год існуе літоўскае аб'яднанне «Vytis», куды ўваходзіць мноства паспяховых і таленавітых літоўцаў, якія жывуць у Беларусі. Сярод іх — тэатральны рэжысёр Віргінія Тарнаўскайтэ, саліст Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь Руслан Мусвідас і г. д.

Літоўская абшчына на чале са старшынёй Альфрыдасам Кершысам рэгулярна арганізоўвае імпрэзы і сяброўскія сустрэчы з удзелам Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, паэта Эвалдаса Ігнатавічуса. Вось і падчас гэтай вечарыны ў канцэртнай зале панавала сапраўдная атмасфера Літвы, бо ўдзельнікі чыталі вершы і спявалі толькі па-літоўску.

**Яна МУСВІДАС**

# Нашы перамаглі

Санкт-Пецярбургскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Расіі правяло Міжнародны конкурс лірыка-патрыятычнай паэзіі, прысвечаны 90-годдзю выдатнага рускага паэта і воіна Ігара Грыгор'ева (1923 — 1996) «Я не мыслю себя без России».

У творчым спаборніцтве бралі ўдзел больш як 500 паэтаў з Расіі, Беларусі, Украіны, Латвіі, Германіі, Ізраіля, Аўстрыі, Бельгіі, Італіі і іншых краін.

Звыш 50 паэтаў выйшлі ў фінал. Сярод іх — беларуская паэтэса Аксана Ярашонак. А перамог у конкурсе Міхась Пазнякоў. Дыплом пераможцы міжнароднага конкурсу і грашовую прэмію яму ўручыў сын, доктар медыцынскіх навук, пісьменнік і святар Рыгор Грыгор'еў.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Ад вайны да любові

Сустрэча са Святланай Алексіевіч адбылася ў Пасольстве Украіны ў Рэспубліцы Беларусь. Назваць сустрэчу літаратурнай, якімі і бываюць зазвычай сустрэчы з пісьменнікамі, складана, бо пытанні збольшага задаваліся пра жыццё, таксама — пра абстрактныя катэгорыі кшталту маралі як ідэалу і маральнасці як сапраўднага стану рэчаў. Святлана Алексіевіч нікога не пакінула без добрага, узважанага адказу.

З прывітальным словам ад імя ўкраінцаў выступіў саветнік-пасланнік пасольства Украіны Валерый Джыгун:

— Мы вельмі радыя вітаць такую госцю, пісьменніцу з сусветным імем. У творчасці Святланы Аляксандраўны адлюстравалася жыццё некалькіх пакаленняў. Я помню, як мы ў час адліг зачытваліся ў «Раман-газеце» надрукаваным «У вайны не жаночы твар». Потым — «Цынкавыя хлопчыкі». І я вельмі рады, што ва Украіне выйшла кніга «Час сэканд-хэнд. Канец чырвонага чалавека». Кнігі Святланы Алексіевіч на стыку сацыялогіі, псіхалогіі, паліталогіі, журналістыкі.

Сярод гасцей імпрэзы — пісьменнікі, грамадскія дзеячы, прадпрымальнікі; знайшоўся і «пенсіянер, які працуе». На сустрэчу прыйшлі людзі розных прафесій, сфер дзеяння, але ўсіх хвалявалі пытанні, якія падымае ў сваіх кнігах Святлана Алексіевіч, — жыццё чалавека пасля распаду СССР ды і самой эпохі, пошук праўды, трансфармацыя асобы, выкліканая камуністычнай ідэалогіяй, і наступствы гэтай трансфармацыі. Тыя ж пытанні цікавяць і заходняга чытача, у якога кнігі Святланы Алексіевіч карыстаюцца папулярнасцю.

Як і падчас прэзентацыі «Часу сэканд-хэнд» на кніжным кірмашы ў Мінску, Святлана Алексіевіч распавяла, што цяпер будзе працаваць над кнігай пра каханне, любоў — і старасць чалавека. Але гэта не адыход ад тэмы — грамадскай, вострa-сацыяльнай і г. д., — а яе паглыбленне, іншы ўзровень мыслення і творчасці.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Горад-цмок

**Паэтэсы Іна Фралова, Анастасія Кузьмічова, Валерыя Ісаковіч і Яна Явіч сустрэліся з чытачамі ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 21.**

Лірыку Анастасіі Кузьмічовай можна назваць паэзіяй думкі. У яе творчасці зусім няма прысвячэнняў, затое багата цікавых вобразаў: тут і горад-цмок, і пустая пустэча, і водар мінулагодняй гарбаты…

Вершы Валерыі Ісаковіч, выпускніцы літаратурнай студыі «Маліна́ўскія галасы» (кіраўнік Іна Фралова), ураджэнкі Гомеля, якая цяпер вучыцца ў Мінску, напоўнены суцэльнымі кантрастамі. Сярод іх пераважае філасофская лірыка, але побач з тыпова «зімовымі» вершамі ў адпаведных халодных тонах можна пабачыць светлыя радкі («А всё же хорошо, что есть весна…»). Дарэчы, творы таленавітай дзяўчыны, якая цяпер працуе над першым уласным паэтычным зборнікам, ужо надрукаваны ў часопісе «Белая Вежа».

Шматгранная і паэзія Іны Фраловай: ёсць пейзажная лірыка, інтымная, ёсць вершы як традыцыйнай структуры, так і верлібры. А найбольш моцным з прачытаных на імпрэзе публіка адзінагалосна прызнала «Штрафную роту».

Што ж да творчасці Яны Явіч, то тут дамінуюць гарадскія матывы, прычым аўтар не прытрымліваецца адно традыцыйнай манеры вершаскладання і не баіцца эксперыментаваць з рытмам і формай, штораз прыдумляючы для сваіх твораў новыя «аблічча».

Зрэшты, у кожнай з паэтэс адметнае паняцце творчага і асабістага шчасця, якога, паводле сцвярджэння Валерыі Ісаковіч, «достоин каждый. // Тогда обязательно будет всё хорошо».

**Дана ХОДНІЧ**


Фота Рагнеда Малахоўскага

Аўтар падпісвае кнігі гасцям сустрэчы.

# Мова і музыка

Прэзентацыя кніг члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрыя Пятровіча «Белая жанчына» (проза) і «Адзіноты пажоўклыя дні» (паэзія) адбылася днямі ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.

Родам Дзмітрый Пятровіч з Заслаўя. Выпускнік БДПУ імя Максіма Танка, магістр філалагічных навук. Шмат гадоў аддаў настаўніцкай працы. Аўтар пяці кніг паэзіі і прозы, мае мноства публікацый у рэспубліканскай перыёдыцы. Цяпер — вядучы стылістычны рэдактар газеты «Звязда».

На думку спадара Дзмітрыя, для кожнага аўтара кніга — гэта яго дзіця, а кожная прэзентацыя кнігі — свайго роду споведзь ці творчая справаздача. Творцам жа даецца ўнікальная магчымасць дадумаць і дапісаць тое, што не адбылося ў жыцці.

У сваіх кнігах Д. Пятровіч уздымае тэмы Радзімы, роднай мовы, жыцця, кахання. Дарэчы, цікавая гутарка пра родную мову і шляхі яе папулярызацыі атрымалася ў яго з гасцямі прэзентацыі. Акрамя таго, творца распавёў гісторыі напісання сваіх празаічных твораў.

Завіталі на імпрэзу і калегі пісьменніка па пяры — паэты, члены СПБ Вольга Шпакевіч і Рагнед Малахоўскі. Гучалі і вершы Д. Пятровіча ў аўтарскім выкананні.

Адметна, што Дзмітрый Пятровіч піша не толькі вершы і прозу. Ім створана больш як 100 песень на словы сучасных айчынных паэтаў, у тым ліку на ўласныя вершы. Сярод аўдыязапісаў, што прагучалі падчас імпрэзы, — і раманс «Салодкія вусны» на словы Р. Малахоўскага.

**Яна ЯВІЧ**

# Справаздача кафедры

**Так склаліся лічбы, што юбілейны год філалагічнага факультэта БДУ стаў значнай датай і для кафедры тэорыі літаратуры, заснаванай дваццаць гадоў таму.**

Дэкан факультэта Іван Роўда падчас юбілейнага пасяджэння кафедры звярнуў увагу на плённую працу створанай пры кафедры вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору і студэнцкай навуковай лабараторыі, выданне электроннага часопіса «Дзьмухавец».

На юбілейнае пасяджэнне завіталі і вядомыя навукоўцы, і колішнія выпускнікі ўніверсітэта, якія займаліся на спецсемінарах кафедры тэорыі літаратуры і з удзячнасцю прыгадваюць сваіх выкладчыкаў. Своеасаблівай філалагічнай гульнёй стаў пошук эпітэтаў і метафар, якія аптымальна стасаваліся да дзейнасці кафедры. Іван Роўда прапанаваў эпітэт «пладавіты» — і сапраўды, колькасць публікацый супрацоўнікаў кафедры за апошнія пяць гадоў налічвае больш як 650 артыкулаў! Метафары «крыніцы» і «кузні» прапанавала загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Таццяна Валодзіна, якая разам з Міхасём Тычынам прынесла віншаванні ад Нацыянальнай акадэміі навук. Навінай для ўдзельнікаў свята стала паведамленне дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея беларускай літаратуры і мастацтва Ганны Запартыка пра адкрыццё ва ўстанове філіяла кафедры тэорыі літаратуры. На думку Г. Запартыка, архіў-музей будзе добрым месцам для адпрацоўкі дысцыплін па прыкладным літаратуразнаўстве: студэнты пазнаёмяцца з працай у фондах і правядзеннем экскурсій. І, вядома, спадчына беларускіх пісьменнікаў, якая захоўваецца ў архіве, застаецца выдатнай базай для літаратуразнаўчых даследаванняў як прафесараў, так і студэнтаў.

На юбілейным пасяджэнні кафедры тэорыі літаратуры панаваў святочны, прыўзняты настрой, гучала шмат апладысментаў. Акрамя віншавальных слоў і расповедаў пра гісторыю кафедры, тут можна было пачуць дзве ўзнёслыя прытчы пра матылька і нават беларускую калядку ў выкананні магістрантаў-кітайцаў!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Расці, садок!

Выхоўваць у новага пакалення пачуццё любові да роднай краіны, да роднага слова трэба не толькі са школы, але і з дзіцячага садка. Такой думкі прытрымліваюцца члены бюро секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Таму чарговую сустрэчу яны правялі ў дзіцячым садку № 266 г. Мінска. У госці да дзетсадаўцаў і іх выхавальнікаў прыйшлі пісьменнікі Ніна Галіноўская, Мікола Чарняўскі і Уладзімір Мазго.

З цікавасцю і захапленнем слухалі тут вершы, скорагаворкі, казкі, загадкі з вуснаў саміх аўтараў. Пісьменнікі падарылі садку ўласныя кнігі з аўтографамі. А дзетсадаўцы дэкламавалі вершы, спявалі песні на словы гасцей.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

*Літвандроўка*

# Ільянскімі дарогамі

Падарожжа «Шляхамі вайны» прывяло сталічную пісьменніцкую дэлегацыю ў мястэчка Ілья, што на Вілейшчыне.

Падчас выступлення творцаў у мясцовай школе загадчык культурна-адукацыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Шагойка прадставіла сумесны з Саюзам пісьменнікаў Беларусі літаратурны праект, дзякуючы якому і стала магчымай сустрэча вучняў і творцаў.

Першы сакратар СПБ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, паэт Генадзь Пашкоў распавёў школьнікам пра ўражанні дзяцінства, не абмінуўшы і тэму вайны. Генадзь Пятровіч чытаў свае новыя вершы, адказваў на пытанні. Творца звярнуў увагу і на тое, што СПБ выяўляе і падтрымлівае творчую моладзь.

Настрой сустрэчы задала экскурсія па музеі «Вілейшчына літаратурная» (загадчык — Роза Шэрая), якую правялі вучні пятага і шостага класаў. У сцэнарыі былі выкарыстаны ўласныя вершы настаўнікаў і вучняў. Быць творцам — дэвіз усяго педагагічнага калектыву школы.

Зусім нядаўна быў заснаваны яшчэ адзін народны школьны музей — «Ільянскія далягляды». Тут можна пабачыць зброю Першай і Другой сусветных войнаў, шкляныя вырабы ільянскай гуты XIX стагоддзя, старыя кнігі, дакументы і г. д.

На другім імправізаваным уроку беларускай літаратуры школьнікі пазнаёміліся са сваёй зямлячкай, галоўным спецыялістам Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэтэсай Інай Фраловай, якая чытала вершы пра малую радзіму. Дарэчы, яе творы ёсць на паліцах літаратурнага музея. А сярод тых, кім ганарацца землякі паэтэсы, — Змітрок Бядуля, Алесь Салавей, які напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны жыў у Ільі, волат беларускай паэзіі Максім Танк.

Моцна ўразіла слухачоў эмацыянальнае выкананне артысткай Зінаідай Феакціставай вершаў Аляксея Пысіна і ўрыўка з твора Максіма Гарэцкага.

Толькі выдатныя адзнакі па беларускай мове і літаратуры ставіў вучням пісьменнік-гумарыст Анатоль Зэкаў. Правёўшы вершаваны бліц-турнір на веданне арфаграфіі і пунктуацыі, Анатоль Мікалаевіч на ўласных вершах праверыў, як школьнікі засвойваюць навучальную праграму ў сітуацыі двухмоўя.

**Ганна СТАРАДУБ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**24 лістапада** — *на музычна-паэтычную імпрэзу з удзелам групы паэтаў, а таксама спевакоў Альберта Скарахода і Нэлі Дашчынскай. Мерапрыемства пройдзе ў вялікай зале Дома літаратара (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак а 19-й гадзіне.*

**25 лістапада** — *на літаратурны праект «Паэтычны аўторак» у публічнай бібліятэцы № 14 (вул. Прытыцкага, 42). Адбудзецца творчая вечарына з удзелам паэтэс і бардаў Алены Свечнікавай і Ганны Чумаковай. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**25 лістапада** — *у Дом дружбы (вул. Захарава, 28) на літаратурны вечар, прысвечаны творчасці класіка персідскай паэзіі Джалаладзіна Румі. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**26 лістапада** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчы вечар паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Карызны. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**27 лістапада** — *на літаратурны вечар памяці паэта і празаіка Паўла Саковіча. Мерапрыемства пройдзе ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 17-й гадзіне.*

# «Мы словам Танкавым, як рэхам...»

**21 лістапада 100-годдзе адзначае Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. У свой час яго скончылі такія выдатныя беларускія паэты, як Пімен Панчанка, Аркадзь Куляшоў, Сяргей Грахоўскі і многія іншыя. Вось ужо 35 гадоў тут плённа працуе літаратурнае аб'яднанне «Крокі», кіраўнік і стваральнік якога — наш сталы аўтар, паэт і перакладчык Мікола Шабовіч. Віншуючы ўсіх «танкаўцаў» з такім знакавым і важкім юбілеем, з радасцю змяшчаем новую падборку вершаў сённяшніх студэнтаў і нядаўніх выпускнікоў нашага любімага педагагічнага.**

## Алена БАСІКІРСКАЯ

### Малітва

*Святло імкнецца ўвысь —*
*прыйшла Прачыстая,*
*І я малюся думак чысцінёй…*
*Мой Божа, я змагу, павер, я выстаю,*
*Ты толькі будзь у споведзі са мной.*

*Я прычашчуся тваёй думкай існаю*
*І блаславлюся горкаю слязой.*
*Мой Божа, я змагу, павер, я выстаю,*
*Праз церні я падамся за табой.*

*У свеце я мільёны з'яў пабачыла,*
*Мільярды шчэ наперадзе пазнаць.*
*Рукалася з удачай і няўдачаю,*
*Хацела козыр лёсу памяняць.*

*Скручу сувой сваёй душэўнай шчырасці,*
*Каб вершам цела ў сюжу захінаць.*
*Мой Божа, памажы ім крышку вырасці,*
*Малым балюча вельмі замярзаць.*

*Я прычашчуся Тваёй думкай існаю*
*І блаславлюся крыжам на грудзях.*
*Мой Божа, я змагу, павер, я выстаю,*
*Прайду Табой наканаваны шлях.*

## Святлана КУКУЦЬ

### Маме

*Ў тваім жыцці менш радасцей, больш гора…*
*Цябе, матуля, моцна прыгарну:*
*У стомленасці лёсам, у пакоры*
*Жывеш. Дазволь твой боль я забяру.*

*Схаваю за гарамі і марамі,*
*На край зямлі ў далонях занясу.*
*Няхай знішчае час яго гадамі*
*І высушыць гарачую слязу,*

*Якая набягае горкай кропляй,*
*Сыходзіць часта пошумам дажджу*
*І ў маладосць тваёй касы міжволі*
*Заўчасна уплятае сівізну.*
*Дазволь мне прыгарнуць цябе, матуля,*
*Дазволь ад бед усіх абараніць.*
*У гэтым грэшным свеце заслужыла*
*Ты ў шчасці простым чалавечым жыць.*

## Вераніка МАНДЗІК

### Прага восені

*Пакутлівай адданасцю душы*
*Я да цябе імкнуся ўсёй істотай*
*Убачыць, як асеннія дажджы*
*Змываюць з лесу чырвань-пазалоту.*

*Прайсці вільготнай сцежкай да ракі*
*І пастаяць ля кладкі ў задуменні.*
*Падняўшы крылы ўгору, ветракі*
*Нібыта просяць у нябёс збавення.*

*Мой светлы сум прывёў ізноў сюды,*
*Дзе восені настылая самота*
*Хавае летняй палкасці сляды,*
*Пра маладосць шкадуючы употай.*

*Магчыма, гэта золь не назаўжды*
*І сонца цераз хмары усміхнецца…*
*Чаму ж я прагну восені, скажы,*
*Сваім нудою набрынялым сэрцам?*

## Таццяна ПРЫШЧЭПАВА

### Мая вёска

*Мая вёска...*
*Там сонца ў азёры ліецца*
*Ціхай музыкай цёплых вятроў гаваркіх…*
*І хапае цяпла, каб у сцюжу сагрэцца,*
*Успамінаў хапае — такіх дарагіх!*
*Там цяпер, як і некалі, песцяцца кветкі*
*На лугах, дзе дзяцінства прайшло басаножа,*
*Як раней, там красуюцца густа палеткі —*
*Ім іграе санаты Бетховена дождж.*
*Мая вёска…*
*Абапал дарогі таполі,*
*Развінуліся буйна-шырока сады.*
*А за імі — нікім не кранутае поле —*
*Сенажаці пралеглі уніз да вады.*
*Там птушыных рапсодый гучыць шматгалоссе:*
*Жаўрукоў, салаўёў, і варон, і сініц…*
*А за вёскай — калоссе, калоссе, калоссе*
*Ды размовы сцюдзёных і чыстых крыніц.*
*Мая вёска….*
*Два крокі да лесу — арэхі,*
*І паляны грыбныя, і пахі суніц,*
*Адзінокае, сумнае, гучнае рэха*
*І нямая усмешка маўклівых зарніц.*
*Неапеты прасцяг па-сялянскаму просты —*
*Успамінаў святых перазвон-пераліў —*
*Прыцярушаны бераг душы — мая вёска —*
*Самы родны куток беларускай зямлі.*

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

***

*Спяваюць конікі-цыкады*
*Свой гімн у полымі зары.*
*Дарыць яго нам вельмі рады*
*Штодзень маленькія майстры.*
*Ўрачыста захад палымнее.*
*У душы стамлёнай — супакой.*
*Хай нараджаюцца надзеі,*
*Ружова-воблачнай ракой*

*Няхай плывуць мае аблокі*
*На фоне велічнай зары*
*У новы дзень, у шлях далёкі —*
*Каб радасць, шчасце ўсім дарыць…*

## Кацярына РАМАШКЕВІЧ

### Восень

*Прыйшла, нязменна залатая,*
*Каштанамі так звонка крочыць,*
*То павуцінак начапляе,*
*То шэпча дожджыкам уночы.*
*Прыйшла сяброўкаю найлепшай*
*Дзяліць са мною прыгажосць.*
*У снах палёты, ў думках вершы...*
*Прыйшла, гарэзлівы мой госць,*
*Туманаў пакрыўкаю ўранку,*
*Блакітным сумам вечароў,*
*Знікаючай у цемры паркаў*
*Бліскучай стужкай ліхтароў,*
*Салодкім водарам кавярняў —*
*Спакуса ўсё ж не абміне.*
*І цёплым шалікам агорне,*
*Сагрэе плечы й душу мне.*

### Мальта

*Мальта*
*мелодыяй хваляў*
*пяшчотна мілуе,*
*асмальвае*
*плечы,*
*на скуры маёй малюе*
*ружовы адбітак*
*сонечных жарсных абдымкаў —*
*не схавацца ад іх;*
*вусны надоўга запомняць*
*салёныя пацалункі ўсіх*
*ветраў Міжземнамор'я.*

## Іна САКУРАВА

***

*Тонкай чырвонай ніткай*
*Быць на тваім запясці.*
*Мару пабегчы шыбка,*
*У абдымкі твае ўпасці.*
*Твой пацалунак гарачы*
*Мару адчуць на вуснах.*
*Шкада, цябе зараз не бачу,*
*У сэрцы маім так пуста…*

## Яна САРОКА

***

*Ціха шэпчуць лясы у смутку*
*Аб вясёлым ды мілым леце.*
*Восень — як залаты малюнак —*
*Затрымалася ў гэтым свеце.*
*Па сцяжынках майго кахання*
*Праляцела бядой яскравай,*
*Пасмяялася з развітання,*
*Што мяне назаўжды зламала.*
*Стала песню сваю заводзіць*
*Сумным ветрам у жоўтым лісці.*
*Хутка жалем дажджы напоўніць —*
*Невясёлым ды серабрыстым.*
*Восень стала маёй сяброўкай,*
*Можа, з суму, а мо — са злосці…*
*Я пашлю табе слоў старонку —*
*Запрашу назаўсёды ў госці.*

## Таццяна СІВЕЦ

***

*Калі пазіраеш на мора цягам пяці гадзін,*
*Разумееш, што гэта яно*
*ўважліва на цябе глядзіць.*
*Так што сядзі, не рухайся, не сыходзь!*
*Хай мора запомніць цябе…*
*Слухай, мора, я раскажу табе*
*пра мясціны, дзе крыгаход*
*Ёсць найвышэйшай праявай прагі волі.*
*Праўда, яго няма каму*
*забараніць, няма каму не дазволіць…*
*І тады адбываецца тое, што*
*не прысніцца і горным рэкам,*
*Але зрэдку…*
*Дзіўна, тут можна выносіць*
*з пляжа паветра, пырскі ды камяні!*
*Здавалася б, колькі іх назбіраеш, але тры дні —*
*І ў маіх кішэнях столькі*
*цудоўных скарбаў,*
*Што не хопіць, пэўна, і дзесяці арабаў,*
*Каб данесці да самалёту маю валізку і чамадан.*
*Але покуль мне мора ўсміхаецца*
*белазуба, кажа: «Прашу, мадам!»,*
*Я гляджу на зямлю з*
*маленечкага карабля*
*(а зямля ўжо далёка: нешта*
*сабе пагойдваецца здаля!).*
*Варта было б прамовіць у гэты*
*момант штосьці правільнае ды разумнае,*
*Але мора блазнуе — і, мокрая ды разутая,*
*Я пачынаю верыць у*
*бессэнсоўнасць любых прамоваў.*
*І думаю толькі пра МОРА.*

### Бацькаваму гадзінніку

*У гэтай краіне дзяўчынкі*
*даношваюць бацькавыя гадзіннікі,*
*Бо ў хлопчыкаў рукі занадта тонкія —*
*Такімі толькі*
*Трымаць асадку або наліваць джын-тонік…*
*(Можа, яны для гэтагай нарадзіліся?)*
*Мой «Усход», што на левым запясці ляскае,*
*Хавае пад рэменем усялякае —*
*Нават тое, чаго не было, але некалі здарыцца…*
*Мы верылі, што нас прымуць у піянеры, калі будзем выдатніцамі,*
*Але мы сталі лялькамі*
*Для мужчын, што не здольныя*
*ўзняць нічога цяжэй за келіх.*
*Мы носім гадзіннікі — памяць*
*нашу цяжкую, праклятую, дзіўную —*
*З пабітымі шкельцамі…*

## Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ

### Максіму Танку

*У сэрцаў чэрствых і сцюдзёных*
*Няма у шчырасці патрэб,*
*А нас сілкуе хлеб надзённы —*
*У вершах выспелены хлеб.*

*Дай Бог і далей не скарыцца,*
*Сваё, святое зберагчы:*
*Застацца следам бліскавіцы*
*На неба роднага плячы…*

*Шчэ ключ лунае жураўліны*
*Над хмарнай шэранню трывог,*
*Буяюць цветам журавіны,*
*І жыта спее ля дарог…*

*Душы шліфуючы агрэхі,*
*Праз вернасць мове ідучы,*
*Мы словам Танкавым, як рэхам,*
*Яшчэ гучым, яшчэ гучым…*



Малюнак Кастуся Дробава

Алесь ВЕТАХ

# Маналог буры



Імклівы, напорысты вецер наляцеў раптоўна, акурат проці ночы: перш ён хістаў верхавіны старых таполяў і гулліва шалясцеў густою лістотай, а затым апусціўся бліжэй да зямлі, пачаў дзьмуць у расчыненыя вокны, пагойдваючы накрухмаленыя гардзіны. Пасля дзённай гарачыні яго подых лагодзіў свежасцю, лёгкім халадком. Узварушанай, трапяткой рабілася прастора хаты. І я паверыў крылатаму, цудадзейнаму ветрыку як добраму сябру, які прынёс чаканую палёгку і ўцеху — спадзеў, што ўрэшце задуха міне і заўтра не будзе гэтак млосна і цяжка. Аднак там, на дварэ, над кронамі дрэў вецер мацнеў; ён штурхаў цёмна-чорныя хмары і, дэманструючы сваю дужасць, штосілы прыгінаў вершаліны таполяў. Захваляваўся, устрывожыўся раскатурханы яблыневы сад — яго шумна-зялёны гуд узносіўся хвалямі, быццам пагрозлівы, папераджальны прыбой. Неўзабаве сцямнела, як ноччу: гэта ўзбураны віхор захмарыў белы свет — ён, нібы ўвішны пастух, шпарка пагнаў чараду чорных быкоў, якія засланілі ўвесь абсяг нагрэтага неба, дзе хутка знікла нават апошняя просінь. У змроку па блясе падаконніка гулка застукалі буйныя кроплі. Дакаціўся глухі водгалас грымотаў. А затым гнеўна зарыкалі набычаныя блізкія хмары. Накочвалася навальніца, але, не зважаючы на яе набліжэнне, я сцішана ляжаў на ложку і не расплюшчваў вачэй. Мяне ахінулі задуменнасць і лёгкія мроі. Здавалася, над бліскуча-залатым купалам лётае белы птах з нейкаю трывогаю; ён кружляе, мітусіцца, шукае месца, дзе сесці, але перашкаджаюць рэзкія парыву ветру. Ці то ў сне, ці на яве неба навокал чарнее, паблісквацюь агністыя маланкі, сярдзіта грукае і незадаволена буркоча гром, шчодра сыплецца на зямлю сярабрысты дождж. Пасля няшчаднай спёкі і бяссонных начэй надышлі жаданыя хвіліны адхлання — пад пошум залевы я заснуў.

У сне прымроілася штосьці дзіўнае, неверагоднае. Усё, што назіраў і чуў, адбывалася як у казцы. Аднекуль нечакана паўстаў нехта нябачны — то была здань. Здаецца, абрысы нейкія заўважаю, але хто гэта — сказаць цяжка. Але пачуў сапраўдную чалавечую гаворку, дакладней, жаночы голас, які нагадваў суровы тон маёй строгай школьнай настаўніцы фізікі:

«Я — Бура, сястра Ветру. Майго брата тут, на зямлі, лепш ведаюць. А я рэдка ў гэтых краях бываю — калі і наведваюся, дык часцей зімою разам са Сцюжаю і Завеяю. Снежныя буры шмат хто памятае. Надараліся гады, дык мы з сёстрамі-рупліўіцамі зімовымі начамі гурбы да самых стрэх намяталі. Многіх я людцаў жыўцом пад снегам пахавала. Брат мой Вецер мякчэйшы і больш лагодны, а я дык лютую і міласэрнасці не маю.

Хто сее ліха, чыніць зло, той наклікае Буру. Гэта, значыцца, мяне. І я мушу тады з'яўляцца, каб нагадаць людзям пра іх грахі, бяспамяцтва і богаадступніцтва. Лепш не мець са мною справы, не бачыць маю дзікую бунтоўнасць і шал, бо ў сваім гневе і помсце я не ведаю мяжы: зрываю стрэхі, крышу сады, прасую жыта, разбураю масты, руйную і нішчу ўсё, што трапляе на шляху. Калі я ўжо тут, то позна прасіць ласкі і збавення. Адбудзецца непазбежнае, самае нечаканае і страшнае.

Сёння я мушу караць — і таму зраблю тое, што мне наканавана. У гэтым мястэчку жыў чалавек, які пайшоў на вялікі грэх. Калісьці ён працаваў настаўнікам і быў камсамольцам. Па камандзе гэты актывіст залез на царкву і выдзер крыж, а затым саштурхнуў яго на зямлю. Той начальнік — дырэктар школы, што загадваў, сурова паплаціўся: яго адзіны сын загінуў — я раз'юшана сарвала браму з крукоў і прыдушыла ёю чортава насенне. Каб такія не пладзіліся! Потым гэты бязбожнік сам цяжка захварэў. Тады ён пачаў моцна каяцца, енчыць і на каленях поўзаць, просячы ў Бога даравання і літасці. Сагнула яго ў крук, і горб на плячах вырас. А вось той, што крыж скінуў, нават перад сканаием не пакаяўся. Шкоду яму двойчы рабіла, пагражаючы, што ўсё дабро пылам пойдзе і сам згіне. Даймала — спадзявалася, што мярзотнік адумаецца і хоць цяпер скіне грэх з душы. Ды марна! І вось сёння я зноў наведалася, каб выканаць вышэйшую волю. Калі наклікаў Буру, то чакай чорнай хвіліны і пасля смерці: калом табе будзе магіла! На літасць спадзеву не май! Ці бачыш: я — Бура?!.»

…Назаўтра ў мястэчку даведаліся, што шалёная бура пранеслася побач і не кранула жытла. «Бог адвёў, уратаваў», — казаў сёй-той, пачуўшы гэткую навіну. У райцэнтры бура нарабіла бяды: знесла некалькі дахаў, вывернула з каранямі шмат дрэў, перакуліла некалькі легкавых машын і нават мікрааўтобус. Пад вечар стала вядома, што магутная бура наляцела на могілкі і напалам скасіла, нібы востраю стальною касою, з дзясятак тоўстых бяроз і асін. Адно з дрэў рухнула акурат на месца пахавання таго чалавека, які некалі ў маладосці скінуў крыж з царквы. Чорны помнік разлящеўся ўшчэнт, угнулася да зямлі жалезная агароджа. Кавалак зламанай асіны з усяго маху ўторкнуўся, нібы агромністы кол, у самую магілу.

Да гэтага ніякая ліхая стыхія не чапала мясцовых магілак, заўсёды абмінала іх. Ніхто са старых людзей не мог прыгадаць, каб ад якой-небудзь буры пацярпела месца спачыну памерлых. Такое здарылася ўпершыню, і гэта быў нейкі дрэнны знак, папярэджанне.

# Астравок восеньскай самоты

У невялікай прысталічнай дуброве, якую яшчэ называюць гаем, жоўта-чырвонае і рыжае лісце шчыльна ўслала дол пад дрэвамі. Пад высокімі разлапістымі елкамі маленькімі плямамі-астраўкамі ляжала пабурэлаяігліца. Апошнімі днямі пасля моцных прымаразкаў пачаўся шчодры лістапад. Лістота абляцела з клёнаў, асін, маньчжурскіх арэхаў, рэдкіх коркавых дрэў. Бяроза, што прысуседзілася ўскрай гаю, на фоне магутных дубоў глядзелася зграбнай красуняй-студэнткай у яркай жоўтай сукенцы. Самай першай, яшчэ напрыканцы спякотнага жніўня, яна пачала абтрасаць скурчаныя лісткі. А цяпер, на схіле сцюдзёнай восені, скідалі густую шавялюру гаспадары гаю — старыя кражыстыя дубы. Лісце сыпалася з іх беспярастанку, агаляючы велічную, разгалінаваную архітэктуру шатаў. Ціхі шум-шэлест гучаў скрушлівай развітальнай музыкай. Толькі на маладых кучаравых дубках высахлае лісце трымалася моцна, учэпіста. Дуброва хутка расцерусіла сваё залатое і бронзавае багацце, у ёй пасвятлела, пабольшала прастору, праз верхавіны дрэў было добра відаць нізкае шэра-халоднае неба.

Зранку лісцевую посцілку падфарбавала бела-срэбная шэрань. І хоць наваколле запоўніла бляклае, але лагоднае сонечнае святло, мароз трымаўся, не спадаў. Дуброва прыціхла ў чаканні зімы, дыхала золкім, настылым паветрам. Знаёмая сцежка скрозь запала сухім, пажухлым лісцем, знікла з вачэй, быццам яе тут і не было. Штосьці стрымлівала, не хацелася ступаць на мяккі дываноы насціл, нават здавалася, што не варта парушаць гэты халодны велічны спакой дубовага гаю, які занямеў у сваім забыцці, не мог ачомацца і прывітаць гэтак, як раней. Сустракаў ён мяне дагэтуль па-рознаму, але заўсёды шчыра, адкрыта і гасцінна: сакавіцкім птушыным граем, летнім шапаткім гоманам, крапліслым постукам пад аблокнай навіссю восеньскіх хмар. Але больш за ўсё я люблю прыходзіць сюды, пад яго шаты, у ціхія дні ранняй восені, калі між дрэў плешчацца светла-жоўтая радасць, а над вершалінамі разліваецца сонечная святлынь блакіту.

Дуброва суціхла і зацята маўчала. Здавалася, хавала нейкую толькі ёй вядомую загадку-таямніцу. Маўчанне гэтае, аднак, не было маркотным, тым больш вусцішным, гнятлівым. Наадварот, сцюдзёна-празрыстая ціша расцякалася між дрэў і трымцела, ад яе зіхоткасці святлеў сум, хацелася дыхаць напоўніцу, жыць і забыць непрыемнасці, узняцца-ўзвысіцца над будзённай прыземленасцю, шэрасцю дня. І ўсё ж настрой мой жадаў лепшага: даймалі жыццёвыя праблемы і ўскладненні. Таму я і прыйшоў на спатканне з векавечнымі дубамі, каб, шпацыруючы пад іх магутнымі кронамі, супакоіцца, зняць стрэс, звездаць, як кажуць, рэлакс.

Гай ніколі не быў бязлюдным. Тут больш за ўсё бавілі час студэнты і выкладчыкі з універсітэцкага інтэрната, які месціўся паблізу, сюды наведваліся жыхары з прысталічных шматпавярховікаў і хадзілі праз яго штодня вяскоўцы, што жылі побач з горадам, — ішлі ці то да аўтобуснага прыпынку, ці то да чыгункі на электрычку. Моладзь часта паліла ў дуброве дымныя вогнішчы, шумела і галёкала, гарланіла пад гітару песні. Закаханыя, адшукаўшы ў прыцемках утульную мясцінку, мілаваліся, даваряючы свае шчырыя шэпты, прызнанні і доўгія пацалункі толькі дрэвам — нямым сведкам. Дубовы гай пабачыў процьму людзей, тут шмат чаго адбылося. Мінула цэлае стагоддзе, многае адышло ў нябыт, а ён як стаяў, так і стаіць. Праўда, час ад часу мяняецца яго аблічча, як і ў той нядзельны дзянёк на памежжы восені і зімы, калі ён паўстаў у адмысловым выглядзе: распранены і згалелы. Мусіць, калі б гай-адзінотнік у той момант прачнуўся, прыйшоў у сябе, то з няёмкасцю, сарамяжліва зірнуў бы ў срэбна-шэрае люстра восеньскага неба. Аднак, здаецца, нішто яго не турбавала: ён загартоўваўся перад лютымі зімовымі маразамі і сцюжамі алімпійскай вытрымкай і спакоем. Дубы-волаты і сапраўды нагадвалі магутных антычных герояў-тытанаў, на якіх трымаецца скляпенне нябёсаў.

Памарудзіўшы і агледзеўшы з ускрайку пусты, асірацелы гай, я пераступіў, так бы мовіць, яго ўмоўны парог і рушыў углыб, пайшоў наўздагад тым месцам, дзе пралягала, пятляючы, нябачная пратаптаная сцежка. Не гледзячы на дрэвы-арыенціры, паўз якія зрэдзьчас хадзіў да прысталічнай вёскі па пітную ваду, нейкім чынам я павярнуў не там, дзе трэба, збіўся, як кажуць, з тропу, неўзабаве выйшаў на ўскраек дубровы. Тады вырашыў не трымацца больш ранейшага кірунку, а проста пачаў блукаць між старых дубоў. Ішоў паціху. Пад нагамі шархацела прамерзлая лістота. Гэтак я выкіраваўся да самага цэнтра дубовага гаю. Крыху збочыўшы ўлева, апынуўся на шырокай паляне, па краях якой купкамі сядзелі і цягнуліся ўгару елкі-падлеткі. Узняў галаву і схамянуўся ад нечаканасці: крыху воддаль, на ўзгорку, стаяў не проста магутны, тытанічны дуб, а вялікае, нават, хутчэй, агромністае дрэва-крыж. Напэўна, гэтую крыжападобную форму яно набыло пасля таго, як верхавіну пакрышыла моцная бура. Або, каб дуб займеў адмысловы выгляд крыжа, дык трэба было, каб да яго прыклаў дбайную руку нябачны дойлід. Верх ствала быў абламаны пад вострым вуглом, а масіўныя галіны з абодвух бакоў, быццам узнятыя ў роспачы рукі, утваралі адзінае цэлае і нагадвалі доўгую перакладзіну. Дубовы крыж узвышаўся велічна, як нерукатворная святыня, і надаваў гаю незвычайнасць. Гледзячы на гэтае неверагоднае з'явішча, непаўторны знак прыроды, здавалася, што апынуўся ў богаабранай мясціне. Цяпер стары гай бачыўся мне вялікім храмам пад адкрытым небам, цэнтр якога — сакральнае дрэва-цуд, а дубы вакол крыжа на ўзвышшы — таўшчэзныя калоны з масіўнымі каронамі, елкі — зялёныя свечкі. І з'явілася адчуванне, што тут, у восеньскім марозным зацішку, нехта вось-вось раздзьмухае цёплае кадзіла, з якога паплыве салодка-духмяны водар, а затым загучыць анёльскі голас. Крыху схіліў галаву перад велічным дубовым крыжам як нейкім святым абярэгам. Затым міжволі заплюшчыў вочы і на імгненне выразна ўбачыў аблічча Хрыста. Ён з'явіўся перада мною — і ў душы пачалі прарастаць, нібы зярняткі, малітоўныя словы, у якіх таемна спелілася надзея на лепшае і светлае. Сапраўды, Гасподзь усюды і паўсюль, дзе б мы ні былі. І калі ўзнікае, нараджаецца вялікае жаданне, глыбокая патрэба, то Бог-Хрыстос ажывае ў сэрцы і памяці, прыходзіць да нас, каб пасля ўжо не пакінуць, быць побач і разам з намі ва ўсе дні зямнога быцця.

Мне думалася, што дуброва — больш чым прытулак для душэўнага супакою і спачынку. Яна згадвалася цяпер найперш у звязку з тым цудоўным куточкам, райскай палянкаю, дзе дрэва-крыж злучае зямлю і нябёсы, дзе можна сам-насам пабыць у одуме, развагах ды ціха пагаварыць з Богам.

Аднак неўзабаве здарылася жахлівае: у дуброве, ідучы з позняй электрычкі, знайшоў сваю згубу малады хлопец — родны брат дачнай сяброўкі. Не буду, дый не варта, называць прычыну яго забойства, хоць, зрэшты, казалі рознае. Бо не гэта галоўнае, а гвалтоўная смерць чалавека, для якога толькі пачыналася дарослае самастойнае жыццё. Яны, забойцы, выскачылі адтуль, з цямрэчы восеньскай дубровы, быццам начныя д'яблы. І пацягнулі выдзіраць душу са сваёй ахвяры. Праліўшы крою чалавечую, святую дуброву апаганілі.

Ранкам між дрэў прыглушаным рэхам каціўся матчын немы крык ды енк і не знаходзіў суцяшальнага водгуку. Дуброва стыла ў палоне лядашчага холаду, маўчала ў хмурым заняменні. Яна, на жаль, стала трагічным крыжовым месцам. Калі я зноў наведаўся сюды, то дубовы гай падаўся аглухлым, амярцвелым, нават чужым — астраўком скрухі і вялікай чалавечай самоты. Доўга тут не затрымаўся. Чамусьці не адпускала думка пра гібель няшчаснага хлопца. Пакідаў я паглумленую дуброву-храм з адзінокім крыжам — быццам вяртаўся з могілак пасля пахавання. Праціналашчымлівая туга па загубленым і няспраўджаным на гэтай пакутнай зямлі.




# Вось і ўся ісціна

Бясспрэчна, галоўная публікацыя кастрычніцкага «Полымя» — раман Юрыя Станкевіча «Паўночны вецер для спелых пладоў» (хоць і не зразумела, чаму твор названы раманам, а не аповесцю; зрэшты, вызначацца з жанрам — прывілей аўтара). Гісторыя студэнта журфака, які пакутуе ад засілля гістмату і тэорыі марксізму, блізка сябруе з танным сухім віном і дзяўчатамі, напачатку здаецца летапісам будняў любога студэнта такога тыпу. Такога — значыць начытанага, разумнага, вясёлага, але ў меру, бо рэфлексіі яму не чужыя, а яны прыносяць мала радаснага. Часам раман нагадвае твор Пятра Васючэнкі «Прыгоды Губашлёпа» — але толькі часам, і агульная плошча кропак судакранання ўрэшце рэшт становіцца вельмі малой, бо падабенства — толькі ў знешнім, у быце студэнта і спецыфіцы вышэйшай адукацыі тых часоў.

Пра галоўнага героя мы можам меркаваць толькі ў стасунках з іншымі, а яны надзвычай заблытаныя. Сюжэт пабудаваны на шматлікіх сустрэчах з дзяўчатамі, якія робяцца паваротнымі пунктамі, пасля якіх нешта змяняецца ў самім героі і ў яго поглядзе на свет; таксама — на дзённікавых запісах Мазура (прозвішча героя), якія з'яўляюцца рэдка і займаюць вельмі мала месца ў творы, але якраз на іх, як на сваі, абапіраецца ўвесь раман. Сімвалічны запіс пра любоў да кніг, пра тое, адкуль яна ўзялася. Пасля аднаго выпадку — амаль містычнага — героя апанаваў жах перад цемрай. «Я ліхаманкава запальваў газніцу, забіваўся ў кут і перад сабой раскрываў чарговую кнігу. Прымушаў паглыбляцца ў тэкст, інакш навальвалася сапраўдная паніка. Страх цемры». Што гэта за цемра? Чалавечае глупства, звер, якога цывілізацыя здолела толькі запалохаць, але не знішчыць, дзіцячыя жахі, адчай адзіноты, бездапаможнасць перад будучыняй?.. Адны ратуюцца ад цемры, чытаючы кнігі, іншыя — пішучы іх.

Акрамя галоўнага героя, вялікае значэнне маюць два персанажы — Пётр Мацкевіч і Святлана Конкіна. Першы — выкладчык, але што больш значна — Настаўнік. У яго вусны Юры Станкевіч укладае галоўнае: «Меў рацыю філосаф, калі сказаў, што над жыццём няма суддзі. Такое яно было і будзе. І яно з усімі нашымі спадзяваннямі ўрэшце змятае ўсіх нас, як паўночны вецер саспелыя плады. Вось і ўся ісціна». Сапраўды, ці знойдзецца сярод герояў рамана хоць адзін шчаслівы, чые надзеі спраўдзіліся? Пры тым, што ў творы няма яўнай трагедыі (калі не лічыць самагубства малавядомага Ігнату Мазуру студэнта, якое апошняга нечакана ўзрушыла), вас не пакідае пачуццё непераможнай разгубленасці, бязмэтнасці, бессэнсоўнасці. Можна спісаць такі настрой на звыклы для маладых стан пошуку, але ці будзе гэта слушна? Такі паўпрытомны стан пры знешняй актыўнасці героя развейваецца са з'яўленнем ужо згаданай гераіні Святланы. Яна раптам становіцца і мэтай (і заблытаныя стасункі з дзяўчатамі самі сабой развязваюцца), і адзінай бядой, і жаданым шчасцем. Цікава, што наш студэнт спісвае ўзніклую сімпатыю на хімічныя рэакцыі, прыкрывае сваю пяшчоту — сапраўдную, у адрозненне ад усяго, што адчуваў ён да іншых сябровак, — халоднымі, цынічнымі словамі. І ўсё адно плод спее. І ўсё адно паўночны вецер набірае сілу. Ці наляціць ён аднойчы? Так, Юры Станкевіч дорыць чытачу шчаслівы фінал. Шчаслівы?

Другая значная публікацыя не адносіцца да мастацкіх тэкстаў. Гэта своеасаблівая рэфлексія часопіса, спроба разабрацца ў становішчы, у якім апынулася як «Полымя», так і яго «браты». Дыскусія «Літаратурныя часопісы: у пошуках страчанага» сабрала «літаратурных людзей» (кажучы словамі Лады Алейнік) Беларусі, Расіі, Украіны і Даніі. Прагнозы даюцца розныя, праблемы таксама вылучаюцца розныя, але ў тым, што тоўстыя часопісы будуць існаваць, ніхто не сумняваецца.

«Успаміны» Міколы Лобана, надрукаваныя ў раздзеле «Спадчына», чытаюцца як мастацкі твор і вельмі жыва малююць аднаўленне працы Беларускага дзяржаўнага ўнверсітэта ў прыватнасці і атмасферу Падмаскоўя 1943-га ў цэлым. Мы сустракаемся з пачаткоўцам Мележам, вельмі кранальным, з Кузьмой Чорным, досыць свойскім, і бачым іх гэтак жа ясна, як бачыў аўтар успамінаў. І надзвычай шкада, што заканчэнне іх згублена.

Пра каханне, акром Юрыя Станкевіча, піша ў гэтым нумары Зіновій Прыгодзіч. Аднак яго «Гісторыя аднаго кахання ў вершах, дзённікавых запісах і эсэмэсках...» не вылучаецца такой глыбінёй і шматлікімі нюансамі, якія ёсць у «Паўночным ветры...». Насамрэч, празаічнаму твору З. Прыгодзіча найбольш поўную характарыстыку даў ён сам — назвай. Гэта канстатацыя пачуццяў, лёгкія накіды, прыпраўленыя немудрагелістымі вершыкамі, прычым лірычныя — так іх хочацца назваць — героі не спрабуюць разабрацца ў сваіх пачуццях. Спробы падобнага ёсць хіба што ў лістах жанчыны, адрасаваных герою. Таксама ў празаічнай частцы вы можаце пачытаць фрагмент кнігі Казіміра Камейшы «Паміж кубкам і вуснамі».

Паэзію ў нумары прадстаўляюць Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп і Мікола Шабовіч. Пра сувязь паміж асобамі і творчасцю Лермантава і Багдановіча — сувязь яўную і прыхаваную — піша даследчык Цімафей Ліякумовіч. На нацыянальнае ў верлібрах Максіма Танка звяртае ўвагу Таццяна Дубоўская. Бібліяфілам цікава будзе пачытаць пра кніжны збор Уладзіміра Конана, «патрыярха беларускай філасофіі» (піша Ірына Лапцёнак), прычым у публікацыі ёсць працяг — лісты Уладзіміра Дубоўкі да Уладзіміра Конана.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Сакрэты кітайскай прозы

Дзясяты нумар «Нёмана» прадстаўляе чытачам прозу сучасных кітайскіх пісьменнікаў — з нагоды 65-й гадавіны ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. Выбраныя апавяданні знаёмяць як з ладам жыцця сучаснага Кітая, так і з адмысловым светаадчуваннем, своеасаблівым падыходам да літаратурнай творчасці, уласцівым іншай культуры. Магчыма, па праглядзе прадмовы пасла КНР Цуй Цыміні ці ў адпаведнасці з уласнымі стэрэатыпамі чытач будзе чакаць твораў, якія «даследуюць шлях кітайскага народа да сацыялізму з кітайскай спецыфікай», — багатых на ідэалагічныя штампы, услаўленне існай грамадскай сістэмы і герояў-«рупараў эпохі». Але, на шчасце, гэтым прадчуванням не дадзена спраўдзіцца: тонкія псіхалагічныя апавяданні чытаюцца з задавальненнем і па настроі вельмі стасуюцца з ціхай самотай восеньскіх дзён.

Творы Вэн Вэй, Чжу Вэнын, Лу Мінь, Гэ Лян вельмі гарманічныя паводле архітэктонікі і эмацыянальнага ладу — асобна варта адзначыць толькі апавяданне А І «Маленькі чалавек», дзе змены ў манеры выкладання адпавядаюць разнастайнасці абставін вакол галоўных персанажаў. Сюжэты ўніверсальныя і нескладаныя, але ў апавяданнях заўсёды шмат дэталяў, якія не працуюць на лепшае разуменне цэнтральнай падзеі альбо героя. І гэта неабавязкова мітусня — як у аднайменным творы Чжу Вэнын, дзе між прадчуваннем нядобрага і заўчаснай смерцю чалавек губляе час на нязначныя справы і думкі. Здавалася б, без нейкіх падрабязнасцей абысціся можна — але як інакш захапіць у свет мастацкага твора, стварыць адмысловы тэмпарытм, пры якім атрымлівалася б разважаць над апавяданнем не пасля, а ў час яго чытання? Кітайская проза імкнецца быццам не да супольнага разумення, а да еднасці ў настрої, у адчуванні — тут няма адкрытых супастаўленняў і катэгарычна выказаных ідэй.

У большасці апавяданняў два героі, якія выпадкова сустрэліся на горным перавале ці ў адной сям'і, застаюцца сам-насам са сваімі пачуццямі, дзівацтвамі, успамінамі. Праз гэта выразна выяўляецца адчужанасць і размежаванасць паміж людзьмі: нават каханне ці захапленне не пазбаўляе адчування дыстанцыі. Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў — гэта творы пра несправядлівасць жыцця, нязменную ўладу над чалавекам яго мінулага, пра нешта няўцямнае і непрадказальнае, што жыве ў кожным і выяўляецца праз спеў, крык, «ціхі тонкі галасок у душы», які паўтарае адну і тую ж шматзначную фразу. Так, гераіня пісьменніцы Вэй Вэй з апавядання «Макіяж» ператвараецца з беднай студэнткі ў паспяховага юрыста. Але раскоша і грошы раптам губляюць для яе сэнс, яна разумее, што недзе ў сярэдзіне так і засталася панылай, непрыкметнай дзяўчынай з нізкай самаацэнкай, а праз марнаванне грошаў «здрадзіла сваёй беднасці, здрадзіла сваму натоўпу».

Многія творы прысвечаны стасункам у сям'і — пераважна халодным і роўным. Мужчыны часта працуюць у вялікім горадзе, вяртаюцца дадому на Новы год «нібыта з пачуцця абавязку» і жывуць




асобна не толькі ад бацькоў, але і ад жонкі ды дзяцей. У «Мітусні» галоўны герой зноў і зноў пакідае ў вёсцы жонку — няшчасную, з маленькімі перабінтаванымі нагамі, а сам жыве ў Шанхаі з жанчынай, якую купляе за грошы. Наступнае апавяданне — «Ад імя бацькі» пісьменніцы Лу Мінь — успаміны пра сям'ю, «якой ніколі не было ў поўным сэнсе гэтага слова», дзе дачка і бацька з'яўляюцца «неспалучальнымі паняццямі», і недахоп любві ад чалавека, які мог быць самым блізкім, на ўсё жыццё застаецца «выспай адзіноты — возерам, зацягнутым лёдам». Зрэшты, празмерная пашана да бацькоў, адпаведная законам канфуцыянства, таксама можа мець кепскія наступствы, асабліва калі ў сям'ю з невялікім прыбыткам прыходзіць невылечная хвароба («Маленькі чалавек»).

Выданне падрыхтавана сумесна з Рэспубліканскім інстытутам кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Перакладчыкі, якія працавалі над апавяданнямі пяці кітайскіх пісьменнікаў, вартыя вялікай удзячнасці!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# «Маладосць» эксклюзіўная

Кастрычніцкая «Маладосць» адначасова спалучае эксклюзіўнае, суседска-роднае і нават езуіцкае. Як такое магчыма?

Да першага азначэння можна аднесці кожны твор і кожную рубрыку. Напрыклад, «Люблінскі нататнік» і апытанка — тое, з чаго «маладосцеўцы» пачалі гэтым разам. У апытанцы беларусы дзеляцца ўражаннямі ад знаёмства з адным з найбліжэйшых да нас польскіх гарадоў, куды моладзь накіроўваецца па адукацыю. Мэтай рубрыкі сталася не толькі знаёмства чытацкай аўдыторыі з вершамі сучасных польскіх паэтаў, але і адкрыццё імёнаў людзей, што займаюцца перакладамі польскамоўнай літаратуры на беларускую мову. Сярод творцаў — імёны Аркадыюша Рытэлеўскага, Эвы Сольскай, Анджэя Хадацкага, Эвы Каладыньскай, Збігнева Уладзіміра Фрончака і інш. Перакладчыкі — Ірына Зімнева, Настасся Салдаценка, Тамара Сарачынская, Вольга Севярынец, Ліда Наліўка і інш.

У рубрыцы «Берасцейскі сшытак» — шчымлівыя і тонкія ўзгадкі Міхася Пазнякова пра сустрэчу з Яўгеніяй Янішчыц, калі ён сам




«толькі ўваходзіў у літаратуру», а яна, ужо замацаваўшыся ў літаратуры, ды не ў жыцці, давала яму парады і настаўленні. «І няхай нішто не спапяліць вашых прынцыпаў і душэўнай раўнавагі...» — казала паэтка.

Азначэннем «эксклюзіўнае» нельга абмінуць таксама інтэрв'ю Тамары Сарачынскай з езуітам Віктарам Жуком, а ён, дарэчы, — «першы езуіт у сучаснай гісторыі Беларусі». Адным словам, калі вам цікава разгадаць таямніцу сучасных езуітаў, то гэты артыкул — для вас!

«Берасцейскі сшытак» уключыў яшчэ і тонкую паэзію Наталлі Бінкевіч. Гэтае імя мусіць быць на слыху ў тых, хто знаёмы з праектам «Літара А». Цяпер «Маладосць» дае магчымасць пазнаёміцца з творчасцю адной з заснавальніц і куратараў праекта. «Словы ў цёплых швэдрах, у кашулях з матылём, з гарбінкай на носе, у дарагіх сукнях, з сінякамі», — піша Наталля.

У тым жа сшытку з Берасцейшчыны прадстаўлены твор маладой аўтаркі Алёны Папко «Хутарская дачка», а таксама — яе паэзія, якая расшыфроўваецца чытачу праз пэўны месяц, пэўную пару года і, такім чынам, раскрывае пачуцці лірычнага героя.

Знайшлося месца і казкам: у літаратурныя госці наведалася Кацярына Мядзведзева з аповесцю «Разламашкі майстра Люфта».

«Пра буквар і каханне on-line» з пошты галоўнага рэдактара Святланы Дзянісавай друкуецца інтэрв'ю з «рэйтынгавым аўтарам "Маладосці"» — Валерыем Гапеевым.

І, безумоўна, аматар гісторыі зверне ўвагу на архіўна-дэтэктыўную прыгоду, або, як азначыў сам аўтар Юрась Лаўрык, на расповед пра кнігазбор, які зберагаўся ў келлі князёў Радзівілаў у канвенце айцоў-рэфарматараў у мястэчку Белая, што на Падляшшы.

**Аксана ЮЧКАВІЧ**




*Кіева-Магілянская акадэмія ў XIX і XXI стагоддзях.*

# Больш чым рэктар

**У адным з апошніх выступленняў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі прагучала думка, у якой закладзены магутны патэнцыял нацыянальнай ідэі. Для беларусаў-білінгвістаў арыентацыя на рускую культуру, моцна інтэграваную ў міжнацыянальную прастору, адкрывае сапраўды сусветныя магчымасці.**

Пазнанне ж уласнанацыянальнай культурнай спадчыны, засваенне беларускай мовы, надбанняў беларускай літаратуры — дзейсны гарант нацыянальнага суверэнітэту. Дзе і як у нашых умовах можа адбывацца ўсведамленне гістарычнай важкасці гэтай канцэпцыі двуадзінства? Мяркуем, што ўсе прыёмы навуковаасветнай, выхаваўчай методыкі засяроджаны ў дзейнасці беларускіх ВНУ — кузні айчыннай інтэлігенцыі. Таму гэта выступленне — своеасаблівы зварот да рэктараў устаноў, што забяспечваюць моладзі магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю ў Беларусі.

## АКАДЭМІЯ ТАЛЕНТАЎ

Некалькі прыкладаў з колішніх навуковых, гісторыка-культурных славянскіх дачыненняў. У XVII ст. у Кіеве быў адкрыты славуты Кіева-Магілянскі калегіум, які, на знак прызнання яго дзейнасці, пазней атрымаў ад Пятра I статус акадэміі. Улічваючы складанасці навучальнага працэсу — найперш недахоп уласнай навуковай літаратуры, — арганізатары Кіева-Магілянскай акадэміі пайшлі на рызыкоўны, амаль рэвалюцыйны крок. Праваслаўная ўстанова пачала дзейнічаць на… лацінскай і польскай мовах! А гэта адкрыла шлях да еўрапейскіх навуковых публікацый. У Кіеве навучалася моладзь праваслаўнага веравызнання з зямель украінцаў, расіян, беларусаў, палякаў, сербаў, малдаван, грэкаў, балгар і іншых навакольных тэрыторый. Істотна, што выкладанне ў акадэміі адбывалася з улікам менталітэту навучэнцаў, іх этнакультурных асаблівасцей. Акрамя таго, студэнты ўсіх навуковых кірункаў (багаслоўскія, дакладныя навукі, юрыдычныя, філалагічныя) практыкаваліся ў гуманітарных дысцыплінах — рыторы, піітыцы. Усе вучыліся асновам вершавання, бралі ўдзел у напісанні і выкананні драматургічных твораў. Існавалі абавязковыя правілы творчасці. У прыватнасці, эстэтычны вопыт Еўропы ўвасабляўся на сцэне праз талерантнасць суседазнаўства. Моўны рэжым дзейных асоб суадносіўся з іх паходжаннем. Казак гаварыў па-ўкраінску, лях — па-польску, ліцвін карыстаўся выключна беларускай мовай, суржык выяўляў элементы іншанацыянальнай культуры: так гаварылі цыганы, яўрэі…

Унутраныя традыцыі і павевы з Захаду вучэльня аб'ядноўвала ў адну ўзаемазалежную цэласнасць. Кіева-Магілянская акадэмія зрабіла велізарны ўнёсак у духоўнае станаўленне суседніх народаў, паколькі з'явілася мастком паміж Еўропай і Расійскай дзяржавай. Рэфарматарская дзейнасць Пятра I, скіраваная супраць маральнага застою тагачаснага рускага грамадства, жывілася з крыніц культурнай і навуковай магутнасці Кіева XVII — пачатку XVIII ст. Украінскай навуковай эліце, прадстаўленай фізікамі, хімікамі, філосафамі, багасловамі, філалагамі, мастакамі, кампазітарамі і музыкамі, наканавана было ўзначаліць расійскія навукова-асветныя і культурналітаратурныя працэсы. Агульнавядомая вялікая роля выпускніка Кіева-Магілянскай акадэміі беларуса Сімяона Полацкага ў станаўленні рускага вершавання, драматургіі, тэатра, у складанні праекта першай расійскай ВНУ — Маскоўскага ўніверсітэта. Нагадаем таксама, што рэктар Кіева-Магілянскай акадэміі вучоны і пісьменнік Феафан Пракаповіч па загадзе цара пераязджае ў Пецярбург, дзе ўзначальвае арганізацыю і дзейнасць Расійскай акадэміі навук — як гісторык, фізік, астраном, літаратар.

Расійская навука на працягу доўгіх гадоў папаўнялася выхаванцамі кіеўскай школы. Праўда, некаторы час узбагачальны ўплыў «лацінніказў» на культуру Расіі прызнаваўся далёка не ўсімі. Сёння ж даследчыкі адкрыта пішуць, што тагачасная літаратура Расіі «не саромелася быць вучаніцай»: з цягам часу толькі мянялася яе еўрапейская арыентацыя. Погляд Расіі з паўднёваславянскіх краін, Балгарыі, Сербіі, пераносіўся праз пасрэдніцтва ўкраінцаў на заходнеславянскія, Польшчу, Чэхію. У маскоўскім выданні 2003 г. «Древнерусская литература. XI — XVII вв.» адзначаецца: руская літаратура ў XVII ст. пертварвалася ў лабараторыю, дзе пачынала свабодна існаваць «сваё» і «чужое»…

## НАТХНЯЛЬНІК ГОГАЛЯ

XIX ст. дае яшчэ адзін яскравы прыклад спалучэння ў жыцці і навуцы міжсупольнай талерантнасці і нацыянальнага пачуцця. У 30-я гг. XIX ст. распачынае працу Кіеўскі ўніверсітэт, першым рэктарам якога прызначаецца прафесар Маскоўскага ўніверсітэта Міхайла Аляксандравіч Максімовіч (1804 — 1873) — выдатны вучоны-біёлаг, натурфілосаф, гісторык, філолаг, фалькларыст і этнограф, пісьменнік. Нарадзіўся ён на Палтаўшчыне, вучыўся ў Ноўгарад-Северскай гімназіі, на філалагічным і прыродазнаўчым факультэтах Маскоўскага ўніверсітэта. У Маскве Максімовіч абараніў дысертацыю, працаваў дырэктарам Батанічнага саду, затым — прафесарам кафедры батанікі ўніверсітэта Масквы. У Кіеве вучонаму-энцыклапедысту шырокага дыяпазону даручана было ўзначаліць Кіеўскі ўніверсітэт імя Св. Уладзіміра, дзе ён — першы рэктар,



*М. А. Максімовіч.*

загадчык кафедры расійскай славеснасці, дэкан філасофскага факультэта.

Заслужаную славу Максімовічу прынеслі напісаныя яшчэ ў Маскве навуковыя даследаванні «Пра сістэму раслінага царства» (1827), «Асновы батанікі» (ч. 1, 2 — 1828), «Галоўныя асновы заалогіі» (1828), «Роздум пра прыроду» (1831) і інш. Сапраўдны прарыў у славянскую духоўнасць — праца вучонага па зборы і выданні ўкраінскага фальклору. Першая публікацыя — «Малороссийские песни, изданные М. Максимовичем» (1827) — мела працяг і перавыданні. Далей выходзіць зборнік Максімовіча «Украинские народные песни» (1834). Фальклварыстычныя даследаванні вучонага аказалі велізарны ўплыў на Мікалая Гогаля. Узяла ў палон чароўная вобразнасць, меладычнасць украінскіх песень, запісаных Максімовічам. Цікавасць да ўкраінскай культуры пашырылася па ўсёй Еўропе.

Уся навуковая і творчая спадчына М. А. Максімовіча дазваляе лічыць яго заснавальнікам цэласнай сістэмы украінaзнаўства. Многія яго публікацыі звязаныя з гісторыяй мовы і славеснасці ўкраінцаў. Як мовазнаўца ён надрукаваў шэраг артыкулаў пра класіфікацыю славянскіх моў. Вучоны даследаваў «Слова аб палку Ігаравым», «Аповесць мінулых гадоў», Кіеўскі і Галіцка-Валынскі летапісы, напісаў нарысы «Роль і значэнне Кіева ў агульным жыцці Расіі», «Пра пачатак кнігадрукавання ў Кіеве», «Лісты пра Б. Хмяльніцкага», «Пра Лаўрскую Магілянскую школу», «Археалагічныя запісы пра Кіеў і яго ваколіцы» і інш. Дзякуючы перакладам Максімовіча на рускай і ўкраінскай мовах з'явіліся вершаваныя перастварэнні «Слова аб палку Ігаравым», па-ўкраінску загучалі многія псалмы. Паказальна, што і грамадская дзейнасць рэктара была скіравана на развіццё роднай культуры. Максімовіч — арганізатар і выдавец альманахаў «Денница» (1830 — 1834), «Киевлянин» (1840, 1841, 1850), «Украинец» (1859, 1864).

Увогуле, М. А. Максімовіч — знакавая фігура. Фарміраванне яго як украінскага грамадзяніна і навукоўца моцна знітаванае з гісторыяй рускага, беларускага народаў. Як фалькларыст, этнограф, археолаг, дыялектолаг ён вырастаў на працах беларуска-польскага вучонага Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага (1784 — 1825). Многія славяназнаўчыя праблемы, даследаваныя Даленгам-Хадакоўскім, атрымалі працяг у працах Максімовіча. Паказальна, што знакаміты расійскі вучоны М. Карамзін, аўтар «Гісторыі дзяржавы Расійскай», улічыў заўвагі Даленгі-Хадакоўскага адносна беларускага матэрыялу. Максімовіч жа, з аднаго боку, выявіў непрыняцце канцэпцыі рускай дзяржаўнасці, выказанай М. Пагодзіным. З другога, выкрываў захопніцкі характар палітыкі польскай шляхты адносна Украіны і Беларусі, што засведчана, у прыватнасці, яго працамі пра «літоўскіх гетманаў князёў Астрожскіх» (1864, 1866). Максімовіча прыцягвала дзейнасць віленскіх філарэтаў і філаматаў, ён трымаў кантакты са славутым палякам Адамам Міцкевічам. Як рэктар марыў запрасіць на выкладчыцкую працу ва ўніверсітэт украінскага Кабзара Тараса Шаўчэнку. Ідэі федэратыўнага ўладкавання жыцця ўсіх славянскіх народаў, падхопленыя з Вільні членамі кіеўскага Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства, знайшлі ў Максімовіча дзейсную падтрымку.

Зразумела, грамадзянская пазіцыя Максімовіча выклікала трывогу з боку паліцэйскага царскага рэжыму. Аднак яго аўтарытэт як навукоўца выявіўся беззаганным. Вучонага абрала сваім пачэсным членам 21 навуковая арганізацыя, у тым ліку Маскоўскі, Пецярбургскі, Кіеўскі, Харкаўскі, Адэскі ўніверсітэты. У 1871 г. прадстаўнікі прагрэсіўнай расійскай навукі абіраюць М. А. Максімовіча членам-карэспандэнтам Пецярбургскай акадэміі навук…

Сёлетні год юбілейны для славутага вучонага: спаўняецца 210 гадоў з дня яго нараджэння. Вядучыя якасці ў партрэце першага рэктара Кіеўскага ўніверсітэта — знітаванасць еўрапейскай адукаванасці, інтэрнацыянальных і выразна патрыятычных рыс інтэлігента Расійскай імперыі XIX ст. Украінец па паходжанні, Максімовіч спалучыў у сабе любоў да роднага краю, павагу да шматаблічнага навакольнага свету, што былі падмацаваны экзістэнцыяй душы чалавека і апорай на навуковыя факты.

Ці ж не гэтыя рысы павінны стаць вядучымі і для нашай інтэлігенцыі XXI ст.? Непарыўнасць шырокай адукацыі агульнагуманістычнага і нацыянальнага зместу — галоўная гарантыя існавання кожнай нацыі ў небяспечны час глабалізацыйных працэсаў. А навуковая база, сродкі і прыёмы сучасных ВНУ, вядома ж, значна пераўзыходзяць магчымасці папярэдняга часу.

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ**

Юбілеі

# Сто год: усё толькі пачынаецца...

Беларускаму дзяржаўнаму педагагічнаму ўніверсітэту імя Максіма Танка сёння спаўняецца сто гадоў. Паводле рэктара найстарэйшай навучальнай установы, прафесара Аляксандра Жука, свята стала падставай прааналізаваць гісторыю і вызначыць шляхі развіцця вядучай педагагічнай ВНУ.

«Кожнае пакаленне выкладчыкаў, супрацоўнікаў і студэнтаў універсітэта зрабіла свой унёсак у яго станаўленне. Пераемнасць пакаленняў павінна стаць асновай устойлівага развіцця БДПУ ў новым стагоддзі», — адзначыў кіраўнік у сваім звароце з нагоды юбілею альма-матар.

Ключавыя прынцыпы новага этапу развіцця — акадэмізм, адкрытасць, інавацыйнасць.



### ПОГЛЯД У МІНУЛАЕ

Векавая гісторыя БДПУ бярэ пачатак яшчэ 22 чэрвеня 1914 года, калі міністр народнай асветы Расійскай імперыі падпісвае ўказ аб адкрыцці Мінскага настаўніцкага інстытута, які адчыніў дзверы 21 лістапада. На пачатку тут было ўсяго трыццаць студэнтаў і сем выкладчыкаў. (Для параўнання: у мінулым навучальным годзе ў БДПУ вучылася каля сямнаццаці тысяч студэнтаў!) Мінскі настаўніцкі інстытут быў пераўтвораны ў вышэйшую педагагічную навучальную ўстанову ў маі 1918-га, а яшчэ праз два гады набыў статус Мінскага інстытута народнай адукацыі, дзе сталі рыхтаваць не толькі настаўнікаў, але і дашкольных ды пазашкольных работнікаў. Лёс яшчэ некалькі разоў прымушае мяняць назву. Цяперашняе аблічча навучальная ўстанова набывае ў 1995 годзе з прысваеннем імя народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

### АДУКАЦЫЯ БЕЗ МЕЖАЎ

БДПУ вядомы сёння як адукацыйны, навуковы і культурны цэнтр, у структуру якога ўваходзяць 12 факультэтаў рознага профілю: ад матэматычнага да філалагічнага.

Сваёй галоўнай задачай ВНУ лічыць бесперапынную адукацыю — забяспечвае падрыхтоўку, перападрыхтоўку і павышэнне кваліфікацыі педагагічных кадраў усіх узроўняў па 64 спецыяльнасцях на I ступені вышэйшай адукацыі і па 18 — на другой.

Апошняя ўступная кампанія паказала, што ўзровень ведаў абітурыентаў расце разам з прэстыжам прафесіі настаўніка. У многім гэта заслуга калектыву БДПУ, у прыватнасці рэктарата і прафесарска-выкладчыцкага калектыву. Лічбы кажуць самі за сябе: у пачатку гэтага навучальнага года ў ВНУ не толькі быў паспяхова выкананы план прыёму, але і ўзраслі прахадныя балы (на многія спецыяльнасці яны склалі больш за 250), павялічылася колькасць абітурыентаў-медалістаў і ўладальнікаў чырвоных дыпломаў.

Аляксандр Жук згадаў, што «БДПУ — суб'ект міжнароднай адукацыйнай прасторы, член Еўразійскай асацыяцыі ўніверсітэтаў. Яго партнёрамі з'яўляюцца замежныя адукацыйныя і навукова-даследчыя арганізацыі Расійскай Федэрацыі, Украіны, Польшчы, Кітая, Азербайджана, Літвы, Італіі, Ізраіля і іншых».

### НАСТАЎНІК — ГУЧЫЦЬ ГОРДА!

Як зацікавіць прафесіяй, якую ў народзе лічаць не вельмі «грашовай», здольных, крэатыўных і працавітых маладых людзей? Сёння будучых педагогаў актыўна падтрымліваюць. З новага навучальнага года ў БДПУ дзейнічае новае правіла: уладальнікі медалёў і пераможцы школьных алімпіяд могуць лёгка стаць студэнтамі без экзаменаў. Зразумела, пераскочыць са школьнай парты на ўніверсітэцкую лаву і вытрымліваць лекцыі па дзве гадзіны — задача няпростая. Рэктар БДПУ паабяцаў, што кожнаму першакурсніку будзе прапанавана дапамога ў адаптацыі да адукацыйнай нагрузкі.

Навучальны працэс у БДПУ стане яшчэ больш цікавым: змест лекцый і семінараў удасканальваецца, прыярытэт аддаецца практыка-арыентаваным формам, з жывымі зносінамі, абменам думкамі лектара і студэнтаў. Навучальныя планы і праграмы пастаянна абнаўляюцца. У ВНУ створана бібліятэка электронных адукацыйных рэсурсаў з вольным доступам да падручнікаў, вучэбна-метадычных, мультымедыйных і даведачных выданняў, у тым ліку сусветных. Усё гэта пашырае магчымасці для самаадукацыі студэнтаў.

Плануецца пашыраць у БДПУ базы практыкі: заключаць новыя дамовы для яе праходжання з дзіцячымі садкамі, школамі, ліцэямі і гімназіямі. Сёння студэнты, па словах рэктара, праходзяць педагагічную практыку ў больш як 200 навучальных установах. Нядаўна ўніверсітэт падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з установай адукацыі «Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубронак», на базе якога штогод праходзіць змена школьных лідараў «Ад захаплення — да педагагічнай прафесіі», дзе старшакласнікі, якія жадаюць стаць педагогамі, выступаюць у якасці важатых у малодшых атрадах.

Як убачыць сярод школьнікаў будучых настаўнікаў і надаць ім упэўненасці, што абраная прафесія — прызначэнне? «Актыўна адраджаюцца ў БДПУ педагагічныя класы. Першыя чатыры класы фізіка-матэматычнага і філалагічнага профіляў ужо дзейнічаюць у гімназіі № 20 горада Мінска для 104 вучняў. Гэта дазваляе яшчэ на пачатковым этапе выявіць вучняў, схільных да педагагічнай працы і навучання ў БДПУ», — зазначыў Аляксандр Жук.

Упершыню ў гісторыі ў сістэме бесперапыннай педагагічнай адукацыі ствараецца вучэбна-навукова-інавацыйны кластар, ядром кіравання якога стане БДПУ. Сюды ўвойдуць і іншыя ВНУ краіны педагагічнага профілю, навуковыя ўстановы, лабараторыі, цэнтры і інстытуты, якія сумесна з універсітэтамі будуць займацца фундаментальнай і прыкладной даследчай дзейнасцю, ствараць інавацыйныя адукацыйныя стандарты, вучэбныя праграмы, формы стымулявання актыўнасці навучэнцаў.

На думку рэктара, у сучасных сацыяльна-эканамічных умовах менавіта такая арганізацыйная форма дазваляе інтэграваць патэнцыялы адукацыі, навукі і эфектыўнай педагагічнай практыкі на якасна новы ўзровень. У перспектыве кластар дазволіць стварыць сістэму бесперапыннай шматузроўневай падрыхтоўкі кваліфікаваных педагагічных кадраў.

### ЮБІЛЕЙНЫ МАРАФОН

Ужо некалькі месяцаў у вядучай педагагічнай установе краіны доўжыцца святочны марафон мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею ВНУ, — не толькі культурных, але і спартыўных, навуковых, адукацыйных.

Яшчэ напярэдадні Дня настаўніка перад уваходам у галоўны корпус універсітэта была адкрыта першая ў рэспубліцы скульптурная кампазіцыя «Настаўніца першая мая». Праведзены два конкурсы сярод школьнікаў — на лепшыя сачыненне і відэаролік аб працы настаўніка. Старшакласнікі даслалі каля ста цікавых прац.

11 верасня па ініцыятыве БДПУ стартаваў маладзёжны праект «Будучыя педагогі — за здаровы лад жыцця». Кожную суботу на працягу двух месяцаў маладыя людзі сустракаліся на веладарожках горада Мінска, каб да юбілею ўніверсітэта пераадолець дыстанцыю ў 100 кіламетраў. Навучэнцы годна справіліся з гэтым заданнем, атрымаўшы ў падарунак ад рэктарата БДПУ і Мінскага велазавода выдатныя ровары. Праявіць сябе будучыя настаўнікі змаглі і на конкурсе фотаработ «Першыя 100», прысвечаным папулярызацыі гісторыі і традыцый БДПУ.

**Марыя ВОЙЦІК**

Даляглядыs

Класік персідскай літаратуры Джалаладзін Румі нарадзіўся ў 1207 і памёр у 1273 годзе. Жыў у Турцыі. Пісаў рэлігійна-філасофскія паэмы, байкі, прытчы, лірычныя вершы, оды, апавяданні па матывах усходняга фальклору, філасофскія трактаты. У наш час карыстаецца вялікай папулярнасцю ў краінах Блізкага Усходу, асабліва ў Іране.

## Джалаладзін РУМІ

## Прытчы

### Спрэчка лінгвіста з капітанам

*На карабель аднойчы сеў лінгвіст вучоны*
*І ў капітана пацікавіўся, самаўлюбёны:*

*«Чытаў ты сінтаксіс?» — «Не», —*
*капітан сказаў.*
*«Шмат год ты марна жыў!» —*
*лінгвіст дэкляраваў.*

*Пакрыўдзіўся, вядома, марахо́д дастойны,*
*Ды прамаўчаў і выгляд захаваў спакойны.*



*Тут вецер наляцеў, як горы,*
*хвалі ўзняў,*
*І капітан лінгвіста беднага спытаў:*
*«Вучыўся плаваць ты?» Той мовіў*
*з перапуду:*
*«Не, дай параду, вельмі ўдзячны буду».*

*«На жаль, лінгвіст, — прамовіў*
*марахо́д, —*
*Мы тонем. Жыў ты марна*
*многа год».*

### Напалоханы гараджанін

*Аднойчы нехта ў дом чужы забег,*
*Перапалоханы і белы, нібы снег.*

*Спыталі ў госця: «Хто ты?*
*Што з табой?*
*Чаму дрыжыш, бы ўспуджаны чумой?»*

*А той гаспадарам: «Наш грозны шах*
*Патрэбу мае вострую ў аслах.*

*І ў мэтах выканання*
*шахскіх слоў*
*Цяпер паўсюль грабуць*
*усіх аслоў».*

*«Хапаюць жа аслоў, а не людзей!*
*Ідзі куды ішоў сабе смялей!*

*Ты не асёл, удзячны лёсу будзь*
*І супакойся, дзікі страх забудзь».*
*А той: «Так спрытна пачалі хапаць,*
*Што і мяне, бадай, гатовы ўзяць.*

*А возьмуць, не заўважаць — дурата,*
*З хвастом я тым хаджу ці без хваста».*

*Гатоў вар'ят-тыран — віноўнік зла*
*І чалавека ўзяць замест асла.*

### Селянін і леў

*Аднойчы, да аратага залезшы ў хлеў,*
*Уночы задушыў і з'еў карову леў*

*І ў тым хляве разлёгся на спачын.*
*Прачнуўся ў хаце раптам селянін*

*І выбег паглядзець без ліхтара,*
*Ці не звялі жывёліну з двара.*

*У хлеў зайшоў і вобмацкам рукі*
*Пагладзіў льву ён спіну і бакі.*

*Падумаў леў: «Напэўна, уначы*
*Мяне асёл каровай палічыў!*

*Ды хіба ж ён рашыўся б пры святле*
*Рукою дакрануцца да мяне?*

*Пухір бы лопнуў жоўцевы ў яго*
*Ад выгляду пагрознага майго!»*
*Ты, мудры, рэчаў сутнасць перш пазнай,*
*Падманным формам лепш не давярай.*

**Пераклад Міхася ПАЗНЯКОВА**

# Памяці Вандроўнага Прафесара



*Мікола Мішчанчук.*

**На філалагічным факультэце Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна прайшла Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Актуальныя праблемы сучаснага літаратурнага працэсу». Сёлета яна была прысвечаная 75-годдзю вядомага навукоўца, доктара філалагічных навук Міколы Мішчанчука. Каб абмеркаваць значныя пытанні развіцця філалагічнай навукі, ушанаваць памяць настаўніка і калегі, на берасцейскім філфаку сабраліся даследчыкі, метадысты з Брэста, Мінска, Віцебска, Магілёва, Мазыра. Натуральна, вялікую цікавасць удзельнікаў канферэнцыі выклікала пленарнае пасяджэнне: з афіцыйнага прадстаўлення дакладаў яно ператварылася ў абмен успамінамі, згадкамі пра Мікалая Іванавіча, які пайшоў з жыцця два гады таму. Здавалася, што кожны з выступоўцаў імкнуўся дадаць новыя штрыхі да партрэта выдатнага вучонага, акрамя навуковай спадчыны, акцэнтаваць увагу і на рысах асобы навукоўца, разгадаць загадку яго працавітасці, добразычлівасці, неверагодна моцнай любові да жыцця.**

## ПРА КАЛЕГУ І НАСТАЎНІКА

Канферэнцыя ўшанавання памяці калег для філфака БрДУ — рашэнне не новае. Ва ўступным слове загадчык кафедры беларускага літаратуразнаўства, кандыдат філалагічных навук Уладзімір Сенькавец адзначыў:

— За апошнія гады мы правялі канферэнцыі, прысвечаныя Уладзіміру Калесніку, Ядвізе Чарняўскай, Веры Зарэцкай-Ляшук, Аляксею Майсейчыку. Праз прызму асобы чалавека і яго справы можна паглядзець на многія праблемы, у тым ліку сучаснага літаратуразнаўства. Мікалай Іванавіч прыехаў сюды не проста працаваць — ён імкнуўся працягваць традыцыю папярэднікаў. Калі аналізаваць асобу Міколы Мішчаншука, мы пабачым, што ён быў не толькі літаратуразнаўцам, але і паэтам, педагогам, чалавекам, які займаўся тэорыяй літаратуры, метадалогіяй, крытыкай, вывучаў гісторыю беларускай літаратуры ў еўрапейскім кантэксце. Сёння сапраўды патрабуецца новае рашэнне літаратуразнаўчых пытанняў — у кантэксце сучаснасці і з улікам таго, што ўжо зроблена папярэднікамі.

Калегі, вучні прафесара распавядалі пра адметныя рысы характару даследчыка, згадвалі пра значныя моманты яго жыццёвай і творчай біяграфіі. Да прыкладу, маючы дзве радзімы, Мікола Мішчанчук галоўнай лічыў Беларусь. Нарадзіўся на прыіску Майск Мазанаўскага раёна Амурскай вобласці. Потым сям'я пераехала ў Беларусь. Школы з рускай мовай навучання ў вёсцы не было, таму юнаку-падлетку фактычна з нуля давялося вучыць беларускую. Але ўсё атрымалася, і выпускныя экзамены ён бліскуча здаў на беларускай мове.

Працаваў у Магілёве, Гродне, Віцебску, бываў у Слуцку, Бабруйску, але лёс звязаў з Палессем. Сам Мікалай Іванавіч казаў, што не надта любіў Мінск, хоць тут вучыўся, але адразу ж упадабаў Брэст і палешукоў.

Удзельнікі канферэнцыі мелі магчымасць пачуць голас прафесара, паглядзець фотаздымкі з яго сямейнага альбома, відэа са святкавання 70-гадовага юбілею. Калегі прыгадвалі, як ён смяяўся, светла і адкрыта, як цікавіўся справамі сваякоў і перадаваў усім прывітанні, як апантана, вынікова, але ў той жа час лёгка і натхнёна працаваў. Людміла Скібіцкая, вучаніца Міколы Мішчанчука, загадчык кафедры журналістыкі БрДУ імя А. С. Пушкіна, кандыдат філалагічных навук, зазначыла, што і сёння яна працуе з аглядкай на меркаванне настаўніка. Гэта планка, эталон, не адпавядаць якому было б сорамна.

Вядомы метадыст, кандыдат педагагічных навук, дацэнт БДПУ імя Максіма Танка Аляксандр Лугоўскі прыгадаў словы Мікалая Іванавіча: каб даследаваць пэўны аспект творчасці пісьменніка, трэба дасканальна вывучыць усю яго творчасць і правесці аналіз у адпаведнасці з агульнымі тэндэнцыямі літаратурнага працэсу. Больш за тое, яго педагогіка грунтуецца на ідэі супрацоўніцтва. Надзвычай важным Мікалай Іванавіч лічыў правядзенне ўрокаў-дыспутаў, дзе кожны вучань меў бы права выказаць уласнае меркаванне і не пагадзіцца з настаўнікам, натуральна, абгрунтаваўшы сваю пазіцыю.

Дачка Мікалая Іванавіча, кандыдат філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры БДПУ імя Максіма Танка Ірына Гоўзіч зазначыла:

— Мне здаецца, што ў згадках калег і вучняў сёння гучыць голас таты, у кожным радку мне чуецца яго слова. Чалавеку нездарма даецца стартавая пляцоўка ў жыцці. І я ўдзячная Мікалаю Іванавічу за той выдатны старт, які ён мне даў. У юнацтве я вельмі пакутавала ад гэтага: было цяжка атрымліваць добрыя адзнакі, а некаторыя думалі, што ўсё даецца вельмі лёгка. Цяпер я сапраўды ўдзячная за гэта. Кажуць, што пад кіраўніцтвам таты абараніліся дзевяць дысертантаў. Магу дадаць сябе дзявятай у гэты спіс, бо Мікалай Іванавіч паспрыяў і ў выбары тэмы, і ўвесь час даваў натхненне на працу.

## КРОКІ СТАНАЎЛЕННЯ

Пранікнёным, шчырым, але ў той жа час па-навуковаму грунтоўным атрымаўся даклад доктара філалагічных навук, прафесара Зоі Мельнікавай. Зоя Пятроўна распавяла:

— Мікола Мішчанчук быў сябрам першых прафесараў філалагічнага факультэта тады яшчэ Брэсцкага педінстытута. Вызначальным для нашай ВНУ стаў 1995 год, калі яна набыла статус універсітэта. Мікалай Іванавіч прыехаў тады ў наш горад афіцыйнай асобай у складзе акрэдытацыйнай камісіі. Ён вывучаў і аналізаваў стан філалагічнай адукацыі ва ўстанове. Думаецца, даследчык быў па-добраму ўражаны працай брэсцкіх філолагаў. Мы ў той час па даручэнні Міністэрства адукацыі Беларусі распрацоўвалі праграму па беларускай літаратуры для агульнаадукацыйных школ краіны, стваралі падручнікі, цэлыя метадычныя комплексы для вучняў і настаўнікаў па роднай літаратуры.

Чалавек працавіты, творчы, Мікола Іванавіч убачыў у Брэсцкім філфаку перспектыву рэалізаваць прафесійны і навуковы патэнцыял у калектыве. Тагачасны рэктар універсітэта прафесар Сцепановіч зычліва запрасіў доктара філалагічных навук, прафесара на працу ў Брэст. Дзякуючы намаганням рэктара і самога Мікалая Іванавіча ў БрДУ быў адкрыты савет па абароне кандыдацкіх дысертацый па філалагічных навуках, старшынёй якога стаў Мікола Мішчанчук. Многія маладыя навукоўцы не толькі з Брэста, але і Гродна, Віцебска, Магілёва, іншых устаноў абавязаны прафесару Мішчанчуку сваім прафесійным станаўленнем. Яны заўсёды будуць удзячныя яму за падтрымку ў набыцці ступені кандыдата філалагічных навук.

Сёння ў Беларусі прызнаная навукова-даследчая філалагічная школа прафесара Мішчанчука, якая ўжо сказала сваё слова ў літаратуразнаўстве. З прыходам Мікалая Іванавіча на факультэце паболела ўніверсітэцкага акадэмізму, гуманітарнай грунтоўнасці, пачалі праводзіцца новыя навуковыя канферэнцыі. Сюды прыязджалі слынныя даследчыкі Уладзімір Гніламёдаў, Міхась Мушынскі, Вячаслаў Рагойша, Алег Лойка, Адам Мальдзіс і многія вучоныя з іншых універсітэтаў.

Першыя публікацыі Міколы Мішчанчука з'явіліся ў навуковым і перыядычным друку ў канцы 1960-х гадоў. Гэта былі матэрыялы не толькі па тэме кандыдацкай дысертацыі, але і па руска-беларускіх літаратурных узаемасувязях, крытычныя і публіцыстычныя артыкулы, рэцэнзіі на актуальныя манаграфічныя выданні. Пісаў ён і артыкулы для «Беларускай савецкай энцыклапедыі». Мікалай Іванавіч актыўна ўключыўся і ў даследаванне беларускага літаратурнага працэсу, цікавіўся тагачаснай лірыкай, яе гарызонтамі і жанравай спецыфікай, драматургіяй, вобразам героя ў беларускім апавяданні 1960 — 1970-х гадоў, творчасцю сваіх сучаснікаў, у прыватнасці Янкі Сіпакова, Хведара Жычкі, сатырычнай плынню. У дыскусійных, грунтоўных артыкулах Мікола Мішчанчук разважаў пра стан літаратуры, неабходнасць сцвярджэння ў мастацкім даследчыцкім слове адвечных ісцін.

У 1979 годзе выйшла з друку яго першая кніга паэзіі «Вернасць». Наступныя дзве — «Трывожуся з белы свет» і «Струна надзеі» — выйшлі ў 1984 і 2009 гадах. Вопыт выкладання назапашваўся, сістэматызаваўся. Мікалай Іванавіч стаў аўтарам многіх метадычных дапаможнікаў для выкладчыкаў і студэнтаў. Працаваў над вяртаннем творчай спадчыны рэпрэсіраваных пісьменнікаў: Змітрака Астапенкі, Аркадзя Моркаўкі, Язэпа Пушчы, Тодара Кляшторнага, Алеся Салаўя і многіх іншых. Даследаваў і лёсы гэтых творцаў, а таксама жыццёвыя шляхі тых, хто міжволі стаў палітычнымі мігрантамі. Зрабіў каштоўныя высновы пра беларускі мадэрнізм і яго розныя плыні ў літаратуры 1920 — 1930-х гадоў.

Яшчэ з 1980-х гадоў Мікалай Іванавіч зацікаўлена і слушна разважаў аб праблемах выкладання літаратуры ў школе, педагагічным майстэрстве настаўніка. Навуковец імкнуўся выхоўваць любоў да педагагічнай працы, выдаў кнігу «Настаўніку пра настаўніка», асобны нарыс з якой прысвяціў Фёдару Янкоўскаму. Менавіта ў яго Мікалай Іванавіч навучыўся павазе да вучняў. Даследчык казаў, што студэнты павінны мець «імунітэт ад абыякавасці», бо сапраўды добры філолаг, педагог мусіць займацца самаадукацыяй, наведваць тэатр, слухаць музыку. Ён вучыў не толькі культуры навуковай працы, але і паважліваму стаўленню да настаўніка, яго заўваг. Мікалай Іванавіч любіў ладзіць творчыя сустрэчы са студэнтамі, чытаў вершы, мініяцюры.

## ПРАЦЯГ ТРАДЫЦЫІ

І на філфаку БрДУ, і ў школах Берасцейшчыны, дзе працуюць вучні Мікалая Іванавіча, выкладчыкі, настаўнікі развіваюць творчую індывідуальнасць сваіх вучняў: праводзяць спаборніцтвы і конкурсы. Так, падчас «круглага стала» «Актуальныя праблемы выкладання літаратуры ў сучаснай школе», што прайшоў у межах канферэнцыі з удзелам прадстаўнікоў аддзелаў адукацыі, спорту і турызму некаторых раёнаў Брэста, творчых настаўнікаў вобласці. Выступоўцы дзяліліся вопытам, распавядалі пра адметныя прыёмы працы па развіцці літаратурнай творчасці вучняў.

Да прыкладу, у школах Кобрыншчыны ўжо традыцыйна ладзіцца конкурс для маладых творцаў «Дэбют». Ён праводзіцца з мэтай выяўлення і падтрымкі таленавітых вучняў, развіцця іх творчых здольнасцей. Па выніках раённага конкурсу лепшыя творы публікуюцца ў адмысловых зборніках. Першая кніжачка мае назву «Белыя ветразі крылаў», другая — «Бераг надзеі», трэцяя «Імгненне і вечнасць». Удзел у конкурсе прымаюць і настаўнікі. І гэта не толькі выкладчыкі мовы, але і гісторыі, геаграфіі, фізікі. Зборнікі конкурсных твораў выклікаюць вялікую цікавасць школьнікаў. Аўтары-пачаткоўцы ў сваіх вершах часта выказваюць спадзяванні на тое, што любоў і павага да кнігі і беларускай мовы вернецца.

У школах развіваецца bookcrossing — бясплатны абмен кнігамі. Настаўнікі пашырылі гэты міжнародны трэнд: на адмысловых занятках па пазакласным чытанні прапануюць вучням абмеркаваць змест прачытаных твораў. Часта даводзіцца чытаць не вельмі якасныя папулярныя раманы, якія школьнікі прапаноўваюць для абмену, аднак гэта кампенсуецца ўсведамленнем таго, што прапанаваная педагогам якасная кніга па правілах гульні ўсё ж не застанецца без увагі вучня.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Лістапад. Залаты

**На працягу тыдня XXI Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» цешыў кінаманаў ігравымі і дакументальнымі фільмамі. А падчас цырымоніі закрыцця, якая адбылася ў кінатэатры «Масква», уся зала апладзіравала карціне-пераможцы.**



*Фота БелТА*

*Гран-пры асноўнага конкурсу ігравога кіно «Золата Лістапада-2014» удастоена ўкраінская карціна «Племя» рэжысёра Міраслава Слабашпіцкага.*

Гран-пры асноўнага конкурсу ігравога кіно «Золата Лістапада-2014» атрымала ўкраінская карціна «Племя». Поўнаметражны дэбют рэжысёра Міраслава Слабашпіцкага — гэта чалавечая драма пра нянавісць і любоў, якія часта не патрабуюць слоў.

— Выбар на карысць фільма-пераможцы быў зроблены адзінагалосна. Мы далі ўзнагароды чатыром кінастужкам, якія ўразілі сваімі бясспрэчнымі мастацкімі і кінематаграфічнымі вартасцямі, — адзначыў вядомы расійскі прадзюсар, сцэнарыст, рэжысёр і старшыня Міжнароднага журы кінематаграфістаў асноўнага конкурсу ігравога кіно Валерый Тадароўскі.

Прыз «За лепшую рэжысуру» дастаўся расійскаму фільму «Дурань» (рэжысёр Юрый Быкаў); «За лепшую аператарскую работу імя Ю. Марухіна» — фільму «Кукурузны востраў» (Грузія) рэжысёра Георгія Авашвілі. Спецыяльны прыз журы «За любоў да людзей і ўнікальнае пачуццё гумару» прысуджаны грузінска-ўкраінскай стужцы «Сляпыя сустрэчы» (рэжысёр Леван Кагуашвілі).

Уручыла ўзнагароды і Міжнароднае журы кінапрэсы XXI ММКФ «Лістапад». Прыз «Серабро Лістапада» ў намінацыі «Фільм як з'ява мастацтва» атрымала карціна «Племя» (Украіна), «Серабро Лістапада» ў намінацыі «Фільм як з'ява мастацтва» — фільм «Дзяўчына ноччу шпацыруе адна» (ЗША, рэжысёр Ана Лілі Амірпур). Прыз «За лепшую жаночую ролю» дастаўся Дар'і Савельевай («Камбінат «Надзея», Расія), «За лепшую мужчынскую ролю» — Эміру Хаджыхафізбеговічу («Такія правілы», Харватыя).

Прызам глядацкіх сімпатый — «Бронзай Лістапада-2014» — узнагароджана кінастужка «Апантанасць» (ЗША, рэжысёр Дам'ен Шазель). Прыз «За лепшы фільм конкурсу ігравога кіно «Маладосць на маршы» імя народнага артыста СССР кінарэжысёра В. Турава» прысуджаны фільму «Суд» (Індыя, рэжысёр Чайтанья Тамхане), а ўзнагароду асноўнага конкурсу дакументальнага Гран-пры «За лепшы дакументальны фільм» атрымала карціна «Правасуддзе ў Венгрыі» (Венгрыя, рэжысёр Эстэр Хайду).

Попыт на добрае кіно ў 2014 годзе быў асаблівым. На асноўны конкурс квіткі раскупілі за тры дні да сеанса. Таму арганізатары зладзілі дадатковыя паказы пасля закрыцця фестывалю. На біс!

**Таццяна ШЧЭРБА**




# Сусветнаму кінематографу

Мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага ў межах Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» прадставіла выстаўку «Дежавю кіно» групы С /А/ С Алега Шобіна.

Праект уключае каля 30 жывапісных палотнаў, у будучым яго плануюць развіць да фармату «Топ 100». Кожная работа прысвечана аднаму з кінашэдэўраў, які стаў класікай сусветнага мастацтва (кінастужкі «Завадны апельсін» Стэнлі Кубрыка, «Сарабанда» Інгмара Бергмана, «Байцоўскі клуб» Дэвіда Фінчэра, «Апошні Імператар» Бернарда Берталучы і інш.). Выстаўка з поспехам праходзіла на прэстыжных міжнародных кінафестывалях.

Новае індывідуальнае аўтарскае прачытанне кінакарцін дасягаецца шляхам сінтэзу трох культурных з'яў: кінаафішы як прадукту рэкламы, жывапісу як першаснай візуальнай праявы, мастацтву інтэрпрэтацыі. Нягледзячы на складаную аўтарскую метафарычную мову і асабістае стаўленне да таго ці іншага кінематаграфічнага твора, рэжысёраў, акцёраў, праект зразумелы аўдыторыі: для інтэрпрэтацыі быў адабраны лепшы сусветны кінаматэрыял.

Дзякуючы падобнаму эксперыменту ёсць магчымасць яшчэ раз узгадаць сусветныя кінашэдэўры, пераказаныя сучаснай аўтарскай мовай жывапісным сродкам выражэння, які трансфармуе аб'ёмны фармат кінакарціны ў плоскасць жывапісу.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Да Солапава на іспыт

Залікоўкі, экзаменацыйныя ведамасці, катэгарычныя лічбы адзнак — нічога такога не будзе. Вечарам 25 лістапада вучні завітаюць да свайго Настаўніка з віншаваннямі, кветкамі, творчымі падарункамі ды ўспамінамі. У вялікай зале сталічнай філармоніі збярэцца сімвалічны клас прафесара Солапава — прадстаўнікі ды спадкаемцы яго ўнікальнай школы служэння мастацтву, якую за рэкордна доўгія гады педагагічнай працы Міхася Рыгоравіча прайшлі амаль дзве сотні музыкантаў.

І ўсё ж для выхаванцаў, пераемнікаў і калег легендарнага маэстра гэта будзе сцэнічны іспыт з адмысловаю назвай «Музычнае прынашэнне настаўніку». Канцэртная праграма прымяркоўваецца да вялікага юбілею заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Міхася Солапава: таленавіты выканаўца-інструменталіст і дырыжор, выдатны арганізатар, асветнік, педагог нядаўна сустрэў свае 90. Ладзіць імпрэзу прадзюсарскі цэнтр «Класіка» Беларускага саюза музычных дзеячаў (аўтар праекта і рэжысёр Валерый Уколаў).

Шыкоўны каларыт поліфаніі Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхася Казінца ўпрыгожыць атмасферу першага аддзялення канцэрта. Пакажуць клас віртуознай ігры салісты Аксана Хахол, Дзяніс Чорны, Барыс Харэвіч.



Пасля антракту пачнецца творчы іспыт для двух колішніх вучняў, якія наведвалі дзіцячую музычную школу ў Брэсце, калі малады Міхась Солапаў быў яе дырэктарам, апекаваўся будучыняй гадаванцаў і ніколі не забываў імёны самых адораных. Імёны тых дваіх таленавітых берасцейскіх хлапчукоў сёння шырока вядомыя. У савецкі час абодва сталі папулярнымі кампазітарамі: Ігар Карнялюк (павіншаваць настаўніка прыедзе з расійскага Санкт-Пецярбурга, дзе ўжо даўно жыве) ды народны артыст Беларусі Эдуард Ханок.

Вядучая канцэрта Іна Зубрыч распавядзе пра рознабаковую асобу Міхася Солапава, які шмат вучыўся і захоплена працаваў, ваяваў на франтах Вялікай Айчыннай і знайшоў свой лёс у самаадданым шматгадовым шчыраванні на абсягу беларускай музычнай культуры.

Будзе гаворка і пра выпушчаную да юбілею музыканта кнігу. Важкі, цікава ілюстраваны навукова-папулярны зборнік артыкулаў, матэрыялаў і дакументаў «Михаил Солопов. Жизнь в музыке» адлюстроўвае розныя грані аблічча гэтага выбітнага чалавека. Пад вокладкай два раздзелы. Прыкладна пятую частку кнігі займаюць тэксты пра самога героя: газетныя нарысы, прафесійныя водгукі, навуковыя характарыстыкі, службовыя даведкі, у тым ліку сведчанні творчасці Міхася Рыгоравіча як аўтара песень і аранжыровак. А ў ёмістым раздзеле «Ні дня без радка» прадстаўлены матэрыялы М. Солапава на разнастайныя музычныя тэмы — публікацыі, сабраныя за перыяд апошняга больш як паўстагоддзя! Сярод іх і плён супрацоўніцтва рэцэнзента-асветніка з рэдакцыяй «ЛіМа». Фотаздымкі знаёмяць з яго радаводам, сям'ёй, прафесійным асяроддзем. З вучнямі, студэнтамі...

Музыканты некалькіх пакаленняў будуць віншаваць Міхася Рыгоравіча з юбілеем. І побач са сваім 90-гадовым настаўнікам нават людзі пачцівага ўзросту, напэўна, зноў адчуюць сябе трапяткімі вучнямі вялікай школы жыцця і прафесійнай творчасці, урокі ў якой ніколі не канчаюцца, а іспыты з гадамі робяцца ўсё больш складанымі ды хвалюючымі.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

# Як за ноч ствараецца тэатр

28 лістапада ў Гомелі распачне работу XII Міжнародны тэатральны фестываль «Славянскія тэатральныя сустрэчы». Упершыню форум адбыўся ў 1989 годзе, калі тры абласныя тэатры-пабрацімы — Гомельскі, Бранскі і Чарнігаўскі — вырашылі стварыць агульную мастацкую пляцоўку для захавання менавіта славянскіх тэатральных традыцый. З цягам часу фэст набыў міжнародную вядомасць і прыхільнікаў у розных краінах СНД.

Па словах арганізатараў «Славянскіх тэатральных сустрэч», фестывальны дыялог спрыяе абнаўленню рэпертуару і новым мастацкім ідэям. Гэта добрая магчымасць для артыстаў прадэманстраваць сваё майстэрства перад калегамі з іншых краін. А прыхільнікі тэатра ў межах адной пляцоўкі ўбачаць лепшае з набыткаў сусветнага і айчыннага сцэнічнага мастацтва.

Удзельнікамі форуму, які працягнецца да 4 снежня, стануць Беларусь, Расія, Украіна, Казахстан і Малдова. Ацэньваць сцэнічнае майстэрства будуць знакамітыя крытыкі Андрэй Масквін (Польшча), Ніна Мазур (Германія), Анжаліна Ражкоў (Малдова).

Распачне фестываль Калінінградскі абласны драматычны тэатр (Расія). На суд гледачоў артысты прадставяць трагікамедыю «Валянцінаў дзень» — гісторыю савецкіх Рамэа і Джульеты.

29 лістапада Бранскі абласны тэатр імя А. Талстога (Расія) раскажа пра каханне ў імпрэзе «Гэтыя свабодныя матылькі». Герой сюжэта ад нараджэння пазбаўлены здольнасці бачыць. Яго жаданне — адчуць сябе паўнавартасным і вольным ад празмернай мацярынскай любові.

30 лістапада адбудзецца тэатральны канцэрт Чарнігаўскага абласнога акадэмічнага музычна-драматычнага тэатра імя Т. Шаўчэнкі (Украіна). Гледачоў чакае мноства сюрпрызаў і яркіх нумароў.

1 снежня Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі прадставіць фарс «Дарагая Памэла». Калі злодзеі, ратуючыся ад паліцыі, трапляюць у дом дзівакаватай бабулькі Памэлы Кронкі, ім у галаву прыходзіць бліскучая ідэя: застрахаваць яе, зладзіць няшчасны выпадак і атрымаць грошы па страхоўцы. Аднак…

2 снежня Дзяржаўны акадэмічны рускі тэатр драмы імя М. Горкага (Казахстан) прадставіць меладраму «Змешаныя пачуцці» — гісторыю пра людзей, якія страцілі сваіх каханых і наіўна спрабуюць адрадзіць іх адзін у адным.

3 снежня Дзяржаўны маладзёжны драматычны тэатр «З вуліцы Руж» (Малдова) будзе натхняць лірычнай камедыяй «Лёвушка». Гэты спектакль пра дзяцінства, дзе ўсе мы — цэнтр сусвету ў асяроддзі родных людзей.

4 снежня Гомельскі абласны драматычны тэатр пакажа камедыю ў камедыі «Тэатр». Спектакль па п'есе Майкла Фрэйна «Шум за сцэнай» падрабязна раскажа, як за адну ноч ствараецца магія тэатра.

**Мар'яна КАРЧЭЎСКАЯ**

*Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

Бібліятэчны сшытак

*21 лістапада 2014 г.*

# Яшчэ раз пра тую вайну

**Сумесная беларуска-польская выстаўка «Першая сусветная вайна ў матэрыялах і дакументах: з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі і Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве», дзе прадстаўлены экспанаты, прысвечаныя падзеям вайны 1914 — 1918 гадоў, адкрылася ў галоўнай кніжніцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**



*Фота Кастуся Дробава*



*У акопах каля Смаргоні. 1917 г.*

Экспазіцыя, падрыхтаваная супрацоўнікамі бібліятэкі, знаёміць з архіўнымі матэрыяламі, публікацыямі ў перыядычным друку, успамінамі сучаснікаў і ўдзельнікаў ваенных падзей, даследаваннямі айчынных і замежных навукоўцаў. Асабліву цікавасць уяўляюць рарытэты, якія з'явіліся падчас вайны. Прадстаўнікі розных дзяржаўных і грамадска-палітычных лагераў спрабуюць асэнсаваць падзеі таго часу. Сярод найбольш ранніх дакументальных крыніц — «Устав Белорусского Общества по оказанию помощи пострадавшим от войны» (1915), «Его Императорское Величество Государь Император Николай Александрович в действующей армии. Сентябрь — Октябрь 1914 г.» (1915), «Протоколы, постановления и материалы Всероссийского Съезда беженцев из Белоруссии в Москве 15 — 21 июля 1918 года» (1918).

Сярод мастацкіх твораў, прысвечаных Першай сусветнай вайне, — апавяданне Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне» (1926), створанае на аснове дзённікавых запісаў і нататак, якія пісьменнік рабіў падчас кароткіх перапынкаў паміж баямі.

Увазе наведвальнікаў прапануецца розная па жанры і чытацкай аўдыторыі грамадска-палітычная, рэлігійная і сатырычная перыёдыка: газеты «Наша ніва», «Гоман», «Bełarus», «Дзянніца», часопісы «Вестник могилевского земства», «Минские Епархиальные ведомости», «Могилёвские Епархиальные ведомости», а таксама часопісы «Аполлон», «Старые годы», «Русский библиофил», якія ўвайшлі ў залаты фонд сусветнай культуры. Упершыню дэманструюцца сатырычныя часопісы, якія выходзілі тады ў Маскве і Петраградзе: «Красный смех», «Кривое зеркало», «Новый Сатирикон», «Сказка и быль». Менавіта гэтая шматжанравасць дапамагае атрымаць больш поўную карціну жыцця розных пластоў грамадства падчас Першай сусветнай вайны.

Асаблівую каштоўнасць экспазіцыі надаюць рэдкія фотаздымкі часоў Першай сусветнай, зробленыя на тэрыторыі Беларусі, — на Смаргоншчыне (былая Віленская губерня) падпаручыкам Уладзіславам Паўлюкоўскім.

Матэрыялы з фондаў Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве паказваюць падзеі вайны ў новым аспекце: адлюстроўваюць у першую чаргу лёс простых людзей, якія не толькі не хацелі вайны, але ў сваёй большасці не разумелі прычын і абставін яе пачатку і не бачылі сэнсу працягу ваенных дзеянняў. Тым не менш менавіта гэтыя людзі найбольш пацярпелі ад маштабнай імперыялістычнай бойкі. Дакументы архіва асвятляюць падзеі розных этапаў вайны пераважна на тэрыторыі Польшчы і бліжэйшага замежжа (з улікам сучасных граніц краіны-суседкі).

**Аляксандр СЦЕФАНОВІЧ,**
**загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі**

# Кветкі сяброўства

Выстаўка «Народны грымотнік», прысвечаная 130-й гадавіне з дня нараджэння рускага паэта Мікалая Аляксеевіча Клюева, экспануецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Чытачы могуць пазнаёміцца з прыжыццёвымі выданнямі вершаў паэта, а таксама са зборнікамі, якія выйшлі за апошнія гады.

Даследаванні жыццёвага шляху і творчасці Н. Клюева, таксама прадстаўленыя на выстаўцы, распавядаюць пра вытокі натхнення і кола стасункаў сялянскага паэта. Увагі заслугоўвае артыкул П. Сакуліна «Народный златоцветъ», апублікаваны ў 1916 годзе ў майскім нумары «Вестника Европы» — адна з першых публікацый, прысвечаных паэзіі Н. Клюева.

Найбольш цікавы экспанат выстаўкі — выданне паэмы «Чацвёрты Рым» з дарчым надпісам блізкаму сябру Н. Клюева — Н. Архіпаву. Іх знаёмства адбылося ў г. Выцегра Аланецкай губерні, дзе Мікалай Архіпаў рэдагаваў мясцовую газету, а Мікалай Клюеў быў адным з яе пастаянных аўтараў. Намаганнямі Архіпава ў 1920 годзе выйшаў у свет зборнік вершаў Клюева «Неўвядальны цвет». Паэт прысвяціў свайму сябру некалькі вершаў і паэмы «Чацвёрты Рым» (1921) і «Маці-субота» (1922).

Амаль аднachасова, у 1923 годзе, Клюеў і Архіпаў пакінулі Выцегру, іх жыццёвыя шляхі разышліся. М. Архіпаў стаў галоўным захавальнікам палацаў-музеяў Пецяргофа. Непрыманне М. Клюевым палітыкі савецкай улады ў адносінах да сялянства закрыла для яго магчымасць публікаваць свае творы. Аднак гэта не перашкодзіла Архіпаву захаваць сяброўскія адносіны з гнаным паэтам. У 1934 годзе М. Клюеў быў арыштаваны па абвінавачванні ў «складанні і распаўсюджванні контррэвалюцыйных літаратурных твораў» і высланы ў Сібір. Мікалай Архіпаў застаўся верным сябру і ў гэты цяжкі час, за што пазней паплаціўся. Калі ў 1937 г. хваля рэпрэсій дакацілася і да М. Архіпава, сяброўства з «кулацкім паэтам Мікалаем Клюевым» стала адным з прад'яўленых абвінавачванняў.

Некаторыя дэталі ў далейшым лёсе падоранага Клюевым асобніка паэмы «Чацвёрты Рым» застаюцца незразумелымі. Мы не ведаем, была кніга канфіскавана падчас арышту Архіпава або трапіла ў абменны фонд адной з ленінградскіх бібліятэк пасля смерці ў блакадным Ленінградзе яго адзінага сына. Так ці інакш, калі ў 1944 годзе супрацоўнікі спустошанай акупантамі Урадавай бібліятэкі БССР імя А. М. Горкага звярнуліся па дапамогу да калег з Ленінграда, сярод кніг, перададзеных для аднаўлення фонду нашай бібліятэкі, было і выданне паэмы «Чацвёрты Рым» з дарчым надпісам М. Клюева М. Архіпаву.

**Вераніка МІТРАКОВА**

# «Дзе я цяпер увесь душой»

Рэдкая кніга «Хрыстовы Золак» (Вільня, 1927) захоўваецца ў зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук. Гэта зборнік вершаў паэта, які схаваўся пад псеўданімам Міхаіл.

Гартаючы віленскую беларускую газету «Крыніца» за 1924 год, сустрэў некалькі яго твораў, падпісаных сапраўдным прозвішчам — Ключановіч. У адным з нумароў рэдакцыя паведамляла, што не зможа дапамагчы выдаць зборнік «Хрыстовы Золак». Але праз тры гады ён усё ж убачыў свет — без належнай рэдактуры. Газета «Беларуская крыніца» (21 кастрычніка 1927 г.), згадваючы пра выхад кнігі, дыпламатычна адзначыла, што «сэнс гэтых вершаў даволі невыразны».

*Я радзіўся, каб жыць,*
*Я жыву, каб памерці...*
*Ды аружжам каб быць,*
*Божых ворагаў сцерці.*

Каб зразумець сэнс творчасці паэта, звернемся да яго біяграфіі. Міхаіл Васільевіч Ключановіч нарадзіўся 20 лістапада 1901 года ў Старобіне. Верагодна, вучыўся ў беларускай гімназіі ў Слуцку. У лістападзе 1920-га падчас паўстання Ключановіч разам з іншымі маладымі людзьмі накіраваўся вучыцца ў Польшчу. Аднак вайна скончылася, Беларусь была падзеленая, а служыць у польскім войску М. Ключановіч не хацеў. Сышоў з афіцэрскай школы ў Быдгашчы і пераехаў на заходнебеларускае Палессе.

Спачатку Міхаіл жыў на Лунінеччыне, пасля — у Пінску. А бацькі засталіся ў савецкай Беларусі. «Зусім блізка да роднай хаты я прыйшоў», — піса ў тады М. Ключановіч. Ён шмат працаваў, супрацоўнічаў не толькі з актывістамі беларускага вызваленчага руху. У Пінску стварыў грамадскую рускую бібліятэку, якую часам называў «беларускарускай», а пры ёй — кнігарню. Наведваў Міхаіл і рускі літаратурна-мастацкі гуртот «Шалаш паэтаў». Даследчык Аляксандр Ільін называе яго «самай загадкавай асобай» з удзельнікаў гуртка — паэтаў, мастакоў, журналістаў, музыкаў.

Польская паліцыя лічыла Ключановіча «рэлігійным фанатыкам са спецыфічнай верай». Нібыта ён быў перакананы, што мае місію — стварэнне «сусветнага саюза братоў-хрысціян», каб з яго дапамогай змяніць лад у савецкай Расіі. Міхаіл сапраўды мог у нешта падобнае верыць. Рэлігійныя пошукі, перажыванні, філасофскія разважанні выліваліся ў недасканалыя, але шчырыя вершы:

*Добра чую зык душы —*
*Сэрца радасцю смяецца:*
*На прасторы, не ў глушы,*
*Воля духа з целам б'ецца.*

На 64 старонках выдадзенай у Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны кнігі «Хрыстовы Золак» (на яе вокладцы чамусьці стаіць 1923 год, хаця кніга з'явілася чатырма гадамі пазней) змешчаны пераважна беларускамоўныя творы, але ёсць і больш як дзясятак рускамоўных вершаў — пераважна любоўная лірыка. Відаць, у гэтым яшчэ адна прычына ігнаравання кнігі тагачаснай беларускай крытыкай. А ў творцы былі яшчэ і іншыя кніжкі, брашуры, пераважна публіцыстычнага і філасофскага зместу, але пра іх амаль нічога невядома.

Польскія ўлады так і не змаглі раскрыць «таямніцу Ключановіча» ды вырашылі ад яго пазбавіцца, тым больш што ён не меў польскага грамадзянства. Рашэнне пра высяленне Міхаіла было прынятае ў сакавіку 1933 года. Замест Данцыга Ключановіч выбраў СССР, дзе, магчыма, яшчэ жылі яго сваякі. Ён мог і не ўбачыць іх, бо неўзабаве быў арыштаваны, а пасля і асуджаны. У зняволенні трымаўся мужна, ад сваіх перакананняў не адмовіўся. Апошнія згадкі пра Міхася Ключановіча адносяцца да снежня 1946 года, калі ён знаходзіўся ў Нарыльску.

*Стаю, гляджу, а думкі ймкнуцца*
*Туды! — ў Старобін родны мой!*
*Па ім што слёзы ціха льюцца,*
*Дзе я цяпер увесь душой.*

**Сяргей ЁРШ**

# Магілёўшчына: старадаўняе аблічча

Дзейнасць Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Год гасціннасці скіравана на азнаямленне з гісторыяй Магілёўшчыны, прапаганду цікавых турыстычных аб'ектаў і маршрутаў, далучэнне чытачоў да культурнай і духоўнай спадчыны краю.

Шэраг цікавых мерапрыемстваў правялі супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры. З помнікамі гісторыі, культуры і прыроды знаёміць мастацка-дакументальная экспазіцыя «Гасцінна запрашаем на Магілёўшчыну». Большасць архітэктурных шэдэўраў, створаных нашымі продкамі, не захаваліся. Але дзякуючы такім неабыякавым і апантаным асобам, як Валерый Ігнаценка, які стварае макеты помнікаў дойлідства, мы можам і сёння ўбачыць, як яны выглядалі. Валерый Васільевіч прадставіў свае работы падчас прэзентацыі экспазіцыі. Майстар працуе кіраўніком гуртка мадэліравання ў СШ № 21 г. Магілёва. Амаль усе буйныя і складаныя праекты гурткоўцаў удзельнічалі ў рэспубліканскіх, абласных і гарадскіх выстаўках, былі адзначаны шматлікімі дыпломамі.


Фота Кацярыны Белай.

Макеты Іосіфаўскага сабора, часоўні, шатровага млына, пажарнай каланчы, брычкі, з якімі мелі магчымасць азнаёміцца госці, здзіўляюць высокім мастацкім густам і тонкім веданнем тэмы.

Ушаноўваючы багатую культурную спадчыну продкаў, супрацоўнікі нашага аддзела падрыхтавалі відэафільм «Магілёўскія гасцінцы», прысвечаны ўнікальным рамёствам і промыслам, якія змаглі адрадзіць сучасныя майстры. Відэаролік, створаны на аснове матэрыялаў з фондаў Магілёўскай абласной бібліятэкі і Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы, знаёміць з работамі 18 майстроў. Па ўнікальныя вырабы з'язджаюцца госці з розных краін на ярмаркі-фестывалі «Дрыбінскія таржкі», «Глушанскі хутарок», «Мсціслаўскі фэст», «Купалле» ў Александрыі.

**Вольга СЯРНОВА,**
**галоўны бібліятэкар аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна.**

# На ровары па кніжніцах

Вандроўка бібліятэкараў і чытачоў з Мінска і Барысава адбылася ў Барысаўскім раёне ў межах дзейнасці грамадскага аб'яднання «Беларуская бібліятэчная асацыяцыя».

За два дні ўдзельнікі велапрабегу праехалі больш як сотню кіламетраў. Першымі іх гасцінна сустрэлі супрацоўнікі сельскай бібліятэкі вёскі Вялікая Ухалода Надзея Мацюшонак і Алёна Бабіцкая, якія распавялі пра асветніцкую работу кніжніцы.

Другім пунктам падарожжа стала інтэграваная бібліятэка вёскі Мётча. Хлебам-соллю сустракалі гасцей бібліятэкары Валянціна Безручонак і Любоў Лайкова. Пасля знаёмства з кніжніцай госці наведалі ўнікальны музей «Літаратурны космас Мётчы», які, дарэчы, у гэтым годзе святкуе 30-годдзе з дня заснавання. Паэтычную экскурсію правёў педагог Мётчанскай сярэдняй школы Уладзімір Лайкоў.

Заключнай кропкай першага дня велапрабегу стала бібліятэка-музей народнай творчасці і побыту вёскі Лявонава. Удзельніцы клуба пажылога чалавека «Субацея» запрасілі ўзяць удзел у незвычайных майстар-класах — ткацтва, прадзення, вышыўкі, вязання. А яшчэ госці асвоілі гармонік і патанчылі падэспань.

На другі дзень іх маршрут пралягаў праз Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева, наведванне якой таксама пакінула прыемныя ўражанні. У краязнаўчым цэнтры падарожнікі пазнаёміліся з біяграфіяй Івана Каладзеева, імя якога з 2008 года носіць цэнтральная бібліятэка, а ў духоўна-асветніцкім цэнтры — з інтэрактыўнай экспазіцыяй «Асветнікі зямлі беларускай».

Запомніліся і наведванне залы літаратуры на замежных мовах. Кнігі ў 3D-фармаце, яркія ілюстрацыі, незвычайныя формы прадстаўленых выданняў не пакінулі абыякавымі ні дарослых, ні дзяцей.

Завяршыўся велапрабег, ініцыятарам якога выступіла галоўны бібліёграф Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Анастасія Жарская, экскурсіяй па сядзібе І. Каладзеева.

**Алена КАПЫТОК,**
**вядучы метадыст аддзела бібліятэчнага маркетынгу Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева**

# Разам з «Вожыкам»

Выстаўка вядомага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Сяргея Волкава пад назвай «З «Вожыкам» па жыцці» ладзілася ў Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

Упершыню С. Волкаў надрукаваўся ў часопісе ў 1960 годзе, і з таго часу яго карыкатуры рэгулярна з'яўляюцца на старонках выдання. Між іншым бацька мастака, знакаміты графік і жывапісец Анатоль Волкаў, у 1944 — 1945 гг. працаваў у баявым агітплакаце «Раздавим фашисцкую гадзіну», а пазней (аж да самай смерці ў 1985 годзе) — у часопісе «Вожык».

Пра Волкава-малодшага і яго сяброўства з «Вожыкам» распавялі галоўны рэдактар часопіса Юлія Зарэцкая, пісьменнік, член рэдкалегіі Уладзімір Саламаха.

С. Волкаў выступіў перад чытачамі — бібліятэкарамі, вучнямі і настаўнікамі дзяржынскай гімназіі. На памяць юным чытачам засталіся малюнкі з выявай Вожыка, герояў шматлікіх дзіцячых кніг, афармленых мастаком у выдавецтвах Беларусі і Расіі. Побач з аўтографам С. Волкава на малюнках вучні пакінулі і свае імёны. Будзем спадзявацца, хутка на старонках «Вожыка» з'явяцца малюнкі маладых мастакоў-карыкатурыстаў з Дзяржыншчыны.

* * *

Дзве цікавыя сустрэчы адбыліся нядаўна на Дзяржыншчыне ў інтэграваных бібліятэках у аграгарадках Петкавічы і Навасёлкі. Да школьнікаў, настаўнікаў ды іншых чытачоў завіталі ў госці галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая, пісьменніца Вольга Сакалова, мясцовыя літаратары, члены літаратурна-паэтычнага клуба «Выток» Антон Анісовіч, Людміла Круглік, Рэгіна Рэўтовіч, дырэктар Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі Валянціна Клімовіч.

Прысутныя з цікавасцю слухалі гасцей, іх згадкі пра стасункі з «Вожыкам», факты з гісторыі выдання. Шчыры смех выклікалі гумарыстычныя творы пісьменнікаў. Самым актыўным слухачам на памяць засталіся кнігі аўтараў з аўтографамі і «вожыкаўскія» каляндарыкі.

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

# Фаліянты асветніка

Прэзентацыя і ўрачыстая цырымонія перадачы факсімільнага выдання «Кніжная спадчына Францыска Скарыны» прайшлі ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. Узноўленыя шэдэўры сусветнага значэння будуць перададзены таксама ва ўсе бібліятэкі Віцебскай вобласці.

Сёлета Нацыянальная бібліятэка Беларусі сумесна з Банкам БелВЭБ рэалізавала першую частку агульнанацыянальнага праекта па выпуску факсімільнага выдання поўнага збору кніг Францыска Скарыны — першыя пяць тамоў ужо пабачылі свет. Гэты ўнікальны выдавецкі праект разлічаны на 2013 — 2017 гады і прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.

У шматтомным факсімільным выданні ўпершыню будуць максімальна ўзноўлены кнігі, якія Францыск Скарына надрукаваў у Празе і Вільні. У аснову пакладзены электронныя копіі найлепш захаваных выданняў першадрукара, якія зберагаюцца ў бібліятэках і музеях Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі і іншых краін.

Усе выданні суправаджаюцца каментарыямі навукоўцаў, а таксама ўпершыню здзейсненымі перакладамі прадмоў і пасляслоўяў Францыска Скарыны на сучасныя беларускую, рускую і англійскую мовы.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Ад радка да акорда

Творчая вечарына «Радок, акорд і вецер лістапада», прысвечаная прэзентацыі кнігі Вольгі Норынай і Тамары Вяцкай «Апошняя жанчына дона Хуана» (Мінск, А. Н. Вараксін, 2014), адбылася ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.

Пра зборнік распавяла паэтэса і журналіст, член Беларускага саюза журналістаў і Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Норына. У праграме ўзялі ўдзел яе сябры і калегі па пяры.

Аляксей Вараксін распавёў аб працы свайго выдавецтва, дзе пабачыла свет кніга, і прадставіў кніжны стэнд. За вытанчанае аздабленне кнігі аўтар падзякавала сваім сябрам, беларускім графікам Вользе Крупянковай і Вячаславу Паўлаўцу. Шчырыя словы ў адрас В. Норынай выказалі Людміла Шабанава, Людміла Дарафеева (прадэкламавала пераклады пісьменніцы з балгарскай мовы, што таксама ўвайшлі ў зборнік), а таксама члены СПБ Мікола Чарняўскі, Дзмітрый Дземідовіч, Жанна Міляновіч, Алена Турава і Мікола Маляўка. Дарэчы, прыемным сюрпрызам для прысутных сталі беларускія пераклады вершаў з новай кнігі, зробленыя М. Маляўкам. Песні на вершы спадарыні Вольгі праспявала бард Вера Лебядзеўская. Гучала тут і лірыка творцы ў выкананні аўтара кнігі ды ўдзельнікаў вечарыны.

Паводле Міколы Чарняўскага, каб вершы дайшлі да чытацкага сэрца, імі трэба пранікацца павольна і ўдумліва. Па ўсім відаць, творы кнігі «Апошняя жанчына дона Хуана» напісаны людзьмі, якія любяць і разумеюць жыццё.

**Яна ЯВІЧ**

# Запросіны ў кніжную восень

Творчае аб'яднанне «Падзея» пры Барысаўскай цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя А. Гайдара працуе два гады. За гэты невялікі час у яго рэпертуары з'явіліся інсцэніроўкі па п'есах «Паўлінка» Янкі Купалы і «Пінская шляхта» Дуніна-Марцінкевіча, творах Зінаіды Дудзюк «Летавіцы», Алены Туравай «Кіндэрвілейскі прывід», Барыса Васільева «А досвіткі тут ціхія…»

Бадай, ніводная літаратурная імпрэза ў кніжніцы не абыходзіцца без удзелу акцёраў-бібліятэкараў. Не стала выключэннем і нядаўняе свята «Добрым дзецям — добрыя кнігі», праведзенае ў межах акцыі «Асенні марафон з добрай кнігай», якая працягвае аналагічную летнюю акцыю. Юным чытачам былі прапанаваны сцэна са спектакля «Паўлінка» і літаратурная кампазіцыя па творах беларускіх пісьменнікаў.

Прэзентаваны таксама хрэстаматыйны зборнік вершаў, апавяданняў і казак «Лучынка», які выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Выданне прадставіла яго ўкладальніца Зося Кустава. З уласнымі творамі з гэтай кнігі прысутных пазнаёміў яе рэдактар — пісьменнік Анатоль Зэкаў.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Ноты для вершаў

Свята сучаснай беларускай песні і паэзіі прайшло ў сталічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі. Сюды завітаў музыкант, кампазітар і спявак у адной асобе Аляксандр Якіменка з г. Астраўца, што на Гродзеншчыне.

У рэпертуары Аляксандра Якіменкі мноства песень на вершы айчынных класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча. Што да сучаснікаў, то творца плённа супрацоўнічае з сябрамі Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, у прыватнасці, з яго старшынёй Міхасём Пазняковым.

Падчас імпрэзы публіка (а сярод гледачоў былі і вайскоўцы з Цэнтра забеспячэння Дзяржпагранкамітэта Рэспублікі Беларусь) пачула ў аўтарскім выкананні песні А. Якіменкі на словы Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Мазго, Івана Цітаўца, Міхася Башлакова, Міколы Мятліцкага, загадчыцы бібліятэкі № 15 Рэгіны Багамолавай. Уласныя вершы прадставілі Т. Трафімава, У. Мазго, І. Цітавец, Р. Багамолава, маладая пісьменніца Яна Явіч ды іншыя творцы.

**Дана ХОДНІЧ**

# Галоўнае — жыццё

**Рэспубліканская мастацкая галерэя «Палац мастацтва» прадставіла мінчанам і гасцям беларускай сталіцы адразу некалькі знакавых выставак.**

## ПЕРАМАГАЕ СВЯТЛО!

Творы Тараса Паражняка склалі экспазіцыю, прысвечаную 90-годдзю аўтара. Тарас Мікалаевіч з першых дзён вайны сямнаццацігадовым юнаком добраахвотна пайшоў на фронт, быў камандзірам артылерыйскага ўзвода. У лістападзе 1942 года пад Сталінградам страціў руку. Вучыўся ў Маскоўскім інстытуце прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва, выкладаў у Львове. З 1965 года жыве і працуе ў Мінску.

У сваіх работах Тарас Мікалаевіч звяртаецца да самых розных тэм: ад героікі Вялікай Айчыннай вайны да матываў прыроды, ад гістарычных рэмінісцэнцый да дынамікі нашых дзён, ад космасу да Чарнобыля. Сярод яго твораў — дэкаратыўныя скульптуры, вазы, падсвечнікі, парцалянавыя чайнічкі, вітражы, маёлікавая пластыка малых формаў, вырабы з каляровага шкла і шамоту, крышталь. Кажуць, найбольш характэрная рыса для творчасці Тараса Паражняка — імкненне напоўніць прадмет асаблівай духоўнасцю.



*Тарас Паражняк «Парадная ваза». 2014 г.*

Ужо ў самых ранніх працах заўважалася схільнасць Т. Паражняка да лаканізму, вобразнасці з дапамогай спалучэння розных фактур і строгіх форм. Ён знайшоў сваю тэхніку глазуравання. На думку Тараса Мікалаевіча, індывідуальнасць мастака ў прыкладной творчасці выяўляецца не толькі ў стылістыцы твораў, але і ва ўласных тэхналагічных прыёмах. Творца — прыхільнік эксперымента і ў той жа час асцярожна ставіцца да традыцый вялікага мастацтва — дастаткова зірнуць на такія кампазіцыі, як «Канфрантацыя», «Чорная быль», «Над Віліяй», «Храм». Мастаку чужыя абстрактнасць, схематызм, недамоўленасць задумы. Галоўнае патрабаванне да сябе — быць зразумелым людзям.

У творах Т. Паражняка перамагае светлы пачатак, дзе галоўнае — не абсалют, не агульнапрынятая мерка, а жыццё з незменнымі стратамі, выпрабаваннямі, надзеямі.



*Ігар Лыскавец «Касцёл Святога Казіміра ў Лагойску». 2011 г.*

## КОЛА ГІСТОРЫІ

Беларускі мастак гістарычнага жанру Ігар Лыскавец прадставіў персанальную выстаўку «Кола гісторыі». У сваёй творчасці ён адлюстроўвае беларускую мінуўшчыну часоў Вялікага Княства Літоўскага — падзеі мінулага праз прызму рэчаіснасці.

Нарадзіўся мастак у Мінску ў 1964 годзе. Пачатковую адукацыю атрымаў у 1-й мастацкай школе. Шматгадовыя заняткі ў студыі Дома культуры трактарнага завода падрыхтавалі Ігара да паступлення ў Тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся Лыскавец у В. Грамыкі і А. Марачкіна. На другім курсе ўніверсітэта быў абраны сябрам маладзёжнага аб'яднання Беларускага саюза мастакоў. Абараніўся ў 1991-м гістарычным творам «Пасля Грунвальду», быў размеркаваны ў Мінскую мастацкую вучэльню імя Глебава, шаснаццаць гадоў выкладаў там малюнак і жывапіс. Сёння жыве і працуе ў Лагойску: распісаў там кляштар св. Казіміра.



*Пётр Шарыпа «Блакітны дзень. Слабодка». 1988 г.*

## БЯЗМЕЖНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ

Значны ўнёсак у беларускае мастацтва другой паловы XX стагоддзя зрабіў Пётр Шарыпа (11.04.1942 — 03.11.2013). Персанальная выстаўка, прысвечаная памяці мастака, прадстаўляе розныя перыяды творчасці жывапісца і дае ўнікальную магчымасць убачыць усё лепшае, што было створана майстрам.

Найбольш яскрава Пётр Пятровіч праявіў свой талент у жанры пейзажа. У ранніх творах 1960-х гадоў заўважна шырокая, пастозная манера пісьма, што нагадвае творчасць рускіх мастакоў К. Каровіна, П. Пятровічава, Л. Туржанскага.

Але з сярэдзіны 1970-х гадоў Пётр Шарыпа знаходзіць свой адметны стыль, які характарызуецца ўвагай да канкрэтнага стану прыроды, дакладным малюнкам і вытанчаным каларытам. Гэта серыі пленэрных краявідаў ранняй вясны; віды старажытных беларускіх гарадоў і мястэчак — Полацк, Гальшаны, Пінск, Мядзел; бязмежныя далягляды Браслаўшчыны, гістарычныя і эпічныя творы: «Нясвіж» (1976), «Вясна» (1985), «Гальшаны» (1990), «Развітанне з роднай вёскай» (1992).

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Шкло ў бронзе

Урачыстая прэзентацыя з нагоды закрыцця выстаўкі аўтарскага шкла «Паміж святлом і ценем» сусветна вядомага рускага гравёра і графіка, заслужанага мастака Расіі, члена-карэспандэнта Расійскай акадэміі мастацтваў Аляксандра Фокіна адбылася ў арт-кафэ Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

У экспазіцыі прадстаўлена шаснаццаць работ, выкананых у аўтарскай тэхніцы гравіроўкі па шкле. Імпульсіўная і далікатная, трапная і вытачаная графіка нараджае ў глыбінях аптычнага шкла аб'ёмныя вобразы, вытканыя са святла.

Гравіроўка — адзін са спосабаў халоднай апрацоўкі шкла. Многія тэхнікі гравіравання існуюць са старажытнасці. Найбольш вядомыя ў гэтай галіне венецыянскія шкларобы XV — XVI стагоддзяў, а таксама чэшскія і багемскія майстры. У Расіі алмазнае гравіраванне па шкле ў XIX стагоддзі было ўдасканалена майстрамі Імператарскага шклянога завода. У Беларусі праславіліся майстры Урэцка-налібоцкіх мануфактур.

Для гравіроўкі шкла выкарыстоўваюцца спецыяльныя інструменты. У тоўшчы шкла ўтвараецца прастора, дзе шматразова пераламляюцца светлавыя прамяні. Атрыманы малюнак успрымаецца трохвымерным.

Графіка на шкле ў падобнай тэхніцы — найтанчэйшая ювелірная работа, якая патрабуе высокай кваліфікацыі, адточанасці майстэрства маляваншчыка, цвёрдасці рукі і адчування рэльефнай формы.

Шкло — матэрыял адначасова просты і складаны. Яно не перастае здзіўляць мастака новымі магчымасцямі. Таму невыпадкова і ў XXI стагоддзі цікавасць да мастацкага шкла не слабее. Сучасныя майстры-шкларобы працуюць практычна ва ўсіх вядомых раней тэхніках і актыўна ўдасканальваюць аўтарскія прыёмы.

Аляксандр Фокін — сучасны майстар з яркай індывідуальнасцю. Аўтар усвядомлена выкарыстоўвае форму і колер шкла, часам уводзіць бронзавае абрамленне або асобныя бронзавыя дэталі, што завяршаюць складаную кампазіцыю. Творца не баіцца парушыць традыцыйную тыпалагічную схему эксперыментамі.

Выстаўка «Паміж святлом і ценем» арганізавана пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы і галерэі мастацкага шкла і керамікі VAIVA (г. Мінск).

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**



*«Алімпіец».*

# Маладая графіка

Вернісаж «Агульнапольскае Біенале студэнцкай графікі. Познань 2013» працуе ў Палацы мастацтваў. Экспазіцыю складаюць працы студэнтаў з вышэйшых мастацкіх установаў Польшчы: Акадэміі мастацтваў у Варшаве, Вроцлаве, Кракаве, Катавіцах, Гданьску, Лодзі, а таксама Мастацкага ўніверсітэта ў Познані, Сілезскага — у Цешыне, Універсітэта М. Складоўскай-Кюры ў Любліне і многіх іншых. Можна пабачыць 174 работы 113 аўтараў!

У адкрыцці выстаўкі бралі ўдзел куратары фестывалю — прафесар Міраслаў Паўлоўскі і прафесар Стэфан Фіцнэр.

Яны былі аднадушныя: развіццё розных графічных медыя, якое назіраецца ў апошнія гады, выклікала зацікаўленасць класічнымі графічнымі тэхнікамі, што знаходзіць рэальнае адлюстраванне на рынку мастацтва. Вернісаж дае магчымасць уважліва прасачыць і параўнаць дасягненні графічных майстэрняў з мастацкіх навучальных устаноў Польшчы, а яшчэ — вылучыць самыя цікавыя творчыя асобы сярод студэнтаў.

У складзе журы біенале — вядомыя графікі, мастацтвазнаўцы, а таксама спецыялісты па распаўсюджванні сучаснага мастацтва.

**Ганна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2285.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 20.11.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4625.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686